*(вуснамі інтылегентнага мужчыны):*

Я много думал и пробовал отвечать по-разному, но в результате решил ответить коротко. По-моему все просто и сложно одновременно. Начать надо с ответа на вопрос „Откуда мы?” Что мы знаем о своем роде, предках хотя бы до 7-го колена? Это, ведь, как источник силы, как стена, на которую ты всегда можешь опереться. Отсюда все вытекает: и смелость, и уверенность в поступках, и жизнеспособность. А также ответственность перед теми, кто придет после тебя. Это диктует линию жизни. И некоторые страхи, навязанные нам извне, исчезнут. А вопрос „Кто я такой?” отпадет сам собой.

*(вуснамі жанчыны, якая ведае):*

Ich bin Mensch, das ist mein Rang und Orden. „Я человек - это мой Титул и Орден” Я - человек, который понимает, что в жизни ценна сама жизнь непосредственно. Я - человек, который серьёзно сомневается в том, что Человек является венцом творения. Преданные глаза собаки, готовой отдать жизнь за своего Человека, грациозные и точные движения кошки, свобода передвижения птиц и упорядоченное трудолюбие пчёл ежедневно доказывают мне - таки не венец творения Человек.
И все-таки я человек, который в миллиардной песчинке принадлежит к той великой русской культуре, которая дала кинетический импульс многим славянским культурам и как дыхание изо рта в рот до сих пор наполняет лёгкие этих культур. И эту культуру создал Человек. Может быть, жизнь наладится?

*(вуснамі дарослага хлопца)*

А мне кажется, что большая страна Россия просто поглотила маленькую. Я реально уважаю людей, которые говорят на белорусском, но сам я на нём говорить не буду, потому что это какая-то пустая трата времени.
Но, как можно сделать, чтобы большинство реально говорило на белорусском. Как? Ну есть как бы два варианта. Один - это просто заставить. А второй - это как-то хитро... или как-то умно показывать, грубо говоря, какие-то выгоды. Или платить бабки. Я не знаю.
Но, если ты думаешь на своём языке, от этого и идёт самоидентификация.

*(вуснамі нармалёвага хлопца)*

Да мне кажется, что у нас такая типа фобия есть, что везде как бы заговор и так далее. Я, конечно, понимаю, что Россия давит. Ввели эти таможенные

пошлины и мы теперь превратились в автомобильную провинцию Москвы. И в культурном плане тоже. Идут какие-то проплаты, чтобы ввести поправки в истории, в культуре, чтобы искоренить... нет, не искоренить, а притушить белорусскую культуру, чтобы она реально была лубковОй... или как это... лубкОвой историей. У них денег до фига, куда им девать деньги? Они реально делают это не целенаправленно, они просто не знают куда тратить деньги. Где-то кто-то написал: „Убей в себе государство". Так вот мне кажется, что перестать быть белорусофилом - это и значит убить в себе государство. Внутренний позыв защищать то, чего не стоит защищать, у белорусов в крови. Научитесь сначала защищать себя, научитесь любить себя, а потом уже цепляйтесь за язык.
Сам белорусский язык на сегодняшний момент – это жалкое подобие белорусского языка. Тот реальный белорусский язык – вот в нём три, да какие три?, ноль-три процента схожести слов с русским. Там такой андеграунд, что просто Ж!

*(вуснамі жанчыны не без спачування):*
Мы ніколі ня будзем гаварыць на беларускай мове. Гэта ж трэба, каб з малаком мацяры. Я добра ведаю беларускую мову. Не дасканальна, но добра ведаю. І дажа, еслі б захацела, я б магла размаўляць і незадумываючыся, можа быць. Няма з кім. Дзеці мае размаўляюць на рускай мове - што сын, што дочка. Ўнука тожа вучаць рускай мове. Дзе яму яе ўпітаць? Я начынаю гаварыць - „Ой, мама, он идёт в сад, а ты как скажешь такие словечки". Всё. Паэтаму палучаецца, што мы, беларусы, стыдаемся сваёй мовы.
І гэта ўжо вякамі. Калі мы былі беларусамі? Калі? Мы былі пад Польшай, мы былі пад Расіяй. Калі мы былі беларусамі? Поэтому ў нас такая мова.
Вельмі мне падабалася, як мая бабуля размаўляла. Што самае цікавае, што ў яе не было рускіх слоў. Ну, можа такія меладычныя польскія праскаквалі.
І яшчэ мне падабалася, што я ніколі ня чула матных слоў. Вось я вырасла, гэтага не было. У дварах чысценька, гарэлку так не пілі. А цяпер... Цяпер пакаленне разлажыўшыхся.
Мая бабуля жыла да 39-га года на Западзе пад Маладзечна, і я ж тожа ж адтуль родам, у мяне бабуля ведае... ведала, цяпер яна ж ужо мёртвая, дасканальна ведала польскую мову, бо скончыла польскую школу. Патом, як яна кажа, прыйшлі красныя, трэба было ўсё па-новаму перавучвацца.
А мы ўжо радзіліся, ўсё, я ўжо размаўляю на мове сваіх бабулі і дзядулі, то есть не панятна на якой. Невядома, якая гэта мова - не руская, не беларуская.

Нешта такое сярэдняе. Паэтаму так палучаецца. Правільна, калі б пастаянна спрадвеку вякоў была б наша - беларуская мова на высаце, тагда мы б былі беларусамі.

Вось у мяне ёсць прыклад такі. Была я на сваёй дачы, у мяне ў дзярэўні застаўся ад бабулі і дзядулі дом, было лета, на двары я закатваю агуркі, і прыйшлі два мужчыны, у народзе іх завуць баптысты. І вось сталі яны ўжо ўгаварваць прыйсьці да іх у цэркаў, у нас у Маладзечна цэркаў гэтая іхняя вялікая такая. Што вось да Бога трэба ісці, усё. Вось я тады ім тожа сказала: да Бога трэба прыйсці так - унутрана. Не так, што вось я прыйшла проста так, аддала дань каму-та, што-та. Прыйсці трэба так, каб у цябе ў сэрцы ёкнула - што табе Бог патрэбен. Тады ты прыйдзеш да Бога. Так і тут. Гэта трэба, каб у цябе ёкнула гдзе-та, што-та.
Але ж наша сістэма не працуе ў гэты бок і гэтым усё сказана. Дзе беларуская мова ў нас? Вось вазьміце тую ж Украіну. Вы бачылі там надпісы на рускай мове? У тых жа магазінах, у тых жа парыкмахерскіх - там усё напісана на ўкраінскай мове. У нас, дзе вы бачылі беларускую мову? Дзе што на беларускай мове напісана?

Гэта далжно быць яшчэ ў школе - беларуская мова павінна быць асноўнай, а не так. Правільна, каб з першага класа дзеткі вучылі сваю беларускую мову, а на рускую мову пару гадзін давалася ў нядзелю, было б зусім па-другому. Я, дапусьцім, вучылася ў беларускай школе. Ў мяне ўсе прадметы былі на беларускай. І фізіка, і геаметрыя і алгебра - усё на беларускай. Патом тэхнікум, інстытут - усё было на рускай. І нават калі я паступала, мне было цяжкавата здаваць экзамены.
Я адчуваю сябе беларускай, калі прыеду куды-небудзь. Я ганаруся, што я беларуска. У тую ж самую Расею, ці на Ўкраіну, ці ў Чэхію - мала я, канешне, дзе была. Я ж не гавару там, што я - руская. Я гавару, што я беларуска. І яшчэ тожа - да беларусаў лепш адносяцца, чым да рускіх. Сур'ёзна. Дажа ў той жа Прыбалтыке. А чаму? Як вы думаеце, чаму?.. Таму што беларусаў счытаюць добрай, спакойнай такой нацыяй. Церпялівай нацыяй. Расіяне - яны болей такія, як сказаць, ветраныя, болей, як той вецер, болей прагрэсіўныя, быць можа. Беларусы - не. Ёсць, канешне, і ў нас. Але гэта маё такое мненіе, я не знаю.
Не хочацца мне браць гісторыю, канешне. Калі браць гісторыю - там многа таго, чым нам можна ганарыцца. Прыкладаў столькі можна прывезці, што…

На данны момант чым мы можам ганарыцца ў Беларусі ... На данны момант мне за Беларусь стыдна. Вось што я хачу вам сказаць.

*(вуснамі дзяўчыны, якая не развучылася чырванець):*

Мне 28. Я ўпартая, але не вельмі ўпэўненая дзяўчына, праз гэта я адвучылася 5 гадоў таму, чым займацца не хачу і толькі зараз раблю тое, што цікавіць і задавальняе.
Я лічу, што я беларуска. Тут нарадзілася і жыву. З'ехаць магла б адсюль, але пакінуць гэтыя мясціны не змагу. Сорамна за сябе праз тое, што пішу для сябе па-беларуску, а размаўляю па-руску. Усё толькі праз свой страх.

*(вуснамі дзяўчыны з цікавасцю ў вачах):*

Знаете, когда кто-то начинает разговаривать со мной на белорусском языке, мне становится слегка неловко. Хочется также подхватить. Впрочем, я уже знаю, что через 5 минут перестану контролировать перевод и снова уйду в привычное языковое русло.
Но знаете, когда однажды в автобусе кондуктор, подавая талончик, сказала: „Дзякуй вам"- мне захотелось заплатить за проезд еще раз... И ещё хочется улыбаться таким людям. Странно, но сейчас я подумала, что это типичная реакция на иностранцев.
Может быть и вправду эти люди другие. Что должно случиться в голове у человека, который осознанно пришёл к этому решению? Какое оно, это состояние, когда ты строишь свою жизнь в ином языковом ракурсе?
Может это как татуировка, которая, говорят, меняет судьбу.
А я... Я смогла бы перейти на белорусский язык только тогда, когда почувствовала, что живу и дышу по-белоруски, и мыслю именно так.
А как это? не знаю, это чувствовать надо.

*(вуснамі хлопца не без гонару):*

Моя мама говорила, что я – молодец. Мой школьный враг – Антон Калапуц, что я – дебил. Церковь говорит, что я грешник и не унаследую царствия небесного. Моя подруга Беляева иногда заключает меня в плен своих острых локтей, и говорит, что я клевый. Наука говорит, что я разумный и прямоходячий. Психотерапия говорит, что я нарцисс и у меня высокая сенситивность.. Интернет говорит, что моя жизнь полна удивительного, Интернет говорит, что все тлен в моей жизни. Мой паспорт и всем известная фамилия в кубе говорят, что я русский. Моя преподавательница по

языкознанию, глядя на мой разрез глаз и общую чернявость, говорила, что я – татарин. Мой друг Костя из Перми, говорит, что я – настоящий белорус . Иногда я думал что я журналист, что я редактор, что я сценарист и драматург. Иногда я думал, что Я - дворник, продавец пива и дешевых кошельков. Иногда я думал, что я взрослый, целостный человек. Иногда я думал, что я просто тело. Когда я ожидал своей первой в жизни операции, я думал о том, как мое тело среагирует на наркоз, если что-то пойдет не так. И только вообразив себе свою смерть, я подумал, что я – где-то посередине, между всеми этими словами, которыми меня можно охарактеризовать. Кто я? Я похож на электричество – я теку по проводам и зажигаю лампы, но непонятно, до сих пор непонятно, что я такое.

*(вуснамі цікавай жанчыны):*

Для мяне, нават, не існуе таго пытання - „ці беларуска". Гэта відавочна. Адразу пытанне - для каго „відавочна?" Для мяне. Меркаванне астатніх мяне не кранае. Чаму цураешся, пытаюцца. Ды размаўляю, і выдатна размаўляю. Больш за тое, я чую яе музыку, меладыйнасць, журчанне.
Ганаруся тым, што для майго дзіцяці беларуская мова стаіць на некалькі прыступкаў вышэй за іншыя, на якіх яна гаворыць.
Часам вінавачу сябе, але ж ведаю, што ў мяне няма таго страху, што нехта скаланецца побач, пачуўшы мову, таму што ў сваім жыцці я чула падзякі за беларускую мову.

*(вуснамі таго ж інтылегентнага мужчыны):*

Я все-таки решился кое-что добавить. Я родился в России, но большую часть жизни прожил здесь. Во мне течет наполовину белорусская кровь, но я говорю и думаю по-русски. Однажды в советские времена, отдыхая в Крыму, меня одна девушка спросила – откуда я. Я ответил – из Белоруссии. Она удивилась и сказала, что на белоруса я не похож. Я переспросил, а на кого я похож? Она пожала плечами. Тогда я впервые задумался: а какой он белорус, как он должен выглядеть, говорить? Мое образование пришлось на время, когда все белорусское подавлялось. Родители не хотели отдавать своих детей в белорусские классы, а белорусский язык считался второстепенным. Помню, как в студенческие годы пробовал читать Короткевича, потому что мой друг из Новогрудка (мать его была учителем истории) ходил с этой книжкой подмышкой и говорил, что это круто. Это были 80-е годы. Сейчас другое время. Я с уважением смотрю на людей, будь это белорус, украинец или

литовец, в котором я чувствую национальное самосознание, но без признаков ненависти к другим нациям. Я этого не ощущаю, но иногда чувствую свою ущербность в том, что что-то важное прошло мимо меня.

## Выпадак 3

*(сядзяць з ноўтамі)*

: Як твой дзень?
Вольха: Глаза устали. Надоело в интернет пялиться. А твой?
: Нармалёва.
Вольха: Расскажи что-нибудь.
: Не ведаю, каханая, што табе і расказаць.
Вольха: Ну, вот. Как всегда.
: Ёсць такая легенда:
... Раніцай беларуса павесілі...
Увечары прыйшлі здымаць...
Знялі...
Ён только кракнуў, памацаў шыю, крыху пакруціў галавой...
і пайшоў...
Каты вылупілі вочы, разявілі раты... Столькі вешалі!- а такога не бачылі...
Потым адзін схамянуўся, крычыць :
- Пачакай!.. Скажы ж, калі ласка, як гэта ты?.. Адвеку ж не было такога!..
Той прыпыніўся і кажа: - Перш балела... А потым - прыцярпеўся...
І пайшоў прэч...

*(Вольха ўздыхае)*

Сёння быў у знаёмага, сядзім, размаўляем, я па-беларуску, ён па-расейску, да яго падыходзіць дачка і на вушка пытаецца:
„Папа, а это настоящий беларус?"
А на маё пытанне :
„А ці ж ты не беларуска?"
яна адказала:
„Нет, я российского производства".
Вольха: Я тебе там ссылки сбросила. Ты смотрел?

: Не яшчэ, зараз пагляджу. А яшчэ мне сёння расказалі - у адным з менскіх магазінаў вырашылі ўсе назвы прадуктаў напісаць па-беларуску. Дзеля рэкламы. Падыходзяць пакупнікі да паліцы з мукой і чытаюць на цэтліку: „Пакута". Пытаюцца, што гэта ў вас такое? А ім адказваюць, гэта нам так інтэрнэт-слоўнік з рускай на беларускую пераклаў слова: „мукА". Сапраўды, мУка нейкая. А яшчэ кітайцы адзначыліся - вырашылі на ўпакоўцы прапісаць інфармацыю па-беларускі. Дык у іх каштоўнасць прадукта складаецца з вугляводаў, тлушчаў і вавёрак!

Вольха: Может сходим куда-нибудь? На шпацыр.

: Я ўжо нашпацыраваўся сёння. Давай трошкі пазней.

Вольха: Добра, пайду пачастую катоў. Давай кансервы.

*(ён аддае кансервы)*

Што ў нас тут?

*(перакладае)*

Говядина...

: (папраўляе)

...Ялавічына...

Вольха: з гароднінай ...і...

: ...і?...

Вольха: ...і... Кураня з сэрцам?

: З сэрцам.

# Апошні Маналог

Так, хопіць. Хопіць!
Хопіць казаць, што мы - гэта міт.
Хопіць упэўніваць нас, што ў нас няма гісторыі.
Хопіць ня верыць, што гэтая краіна мае будучыню.
Мы - ёсць, я - ёсць, і мне ёсць за што паважаць сябе.
У нас ёсць гісторыя і нам ёсць што абараняць і чым ганарыцца.
І нам ёсць у што верыць.
Хопіць бязглуздага падпарадкоўвання.
Хопіць быць таннай працоўнай сілай.

Хопіць прадаваць сябе.
Хопіць жабраваць.
Трэба думаць, трэба працаваць, працаваць па-сапраўднаму, працаваць на сябе і ставіць адпаведныя і вартыя мэты для працы.
Няхай я пачну з сябе, няхай будзе цяжка. I я не збіраюся загінуць ці знікнуць, а калі і выпадзе - няхай.
Мы ўжо зведалі жудасныя цяжкасці і падавалася, што ўсялякая надзея памерла. Але я адчуваю гэта ўнутры і калі гэта жыве ўва мне, у мяне хопіць моцы ўзбудзіць гэта ў іншых і гэта будзе жыць. I я гавару аб гэтым і страх, генетычны страх сыходзіць з мяне.
I ня трэба лозунгаў. I хопіць ахвяр. Трэба ўсвядоміць сябе, ўсьвядоміць, што насамрэч для мяне, для нас важна і рабіць гэта - дзейнічаць - разумна, з сэрцам, з верай, з Богам. I жыццё будзе жыццём, а чалавек - чалавекам.



# Акно

Як толькі перастаў я поўзаць малечаю па хаце і пачаў хадзіць, памятаю акно. Яно вабіла мяне святлом і таемнымі гукамі. Даставаўся я да яго з бядою, але неадступна. Ужо прадчуваў і нават разумеў, што свет не канчаецца ў сенях, і аднекуль заходзяць да нас людзі, цёткі з дарункамі цукеркаў. Мне вельмі хацелася ўбачыць – менавіта – адкуль яны і як; а яшчэ, якія ў іх хаты, бо чуў, што таксама маюць свае...

Акно снілася. Тады я вылятаў цераз яго бабульчыным анёлам і зачаравана прынюхваўся месяцавай бондзе з пахамі велікоднага пірага. Зоркі, калі спрабоўваў лізнуць каторую, прынаджвалі смакам ландрынак. Не баяўся вышыні, не ведаючы, што такая ёсць.

Прачнуўшыся, жальна плакаў. Пакуль прыйшла вясна і мацерка вывела мяне на сонца.

На падворышчы я разгубіўся, бы зайчаня, што адбеглася ад гнязда пад мяжою ў шырокае поле. Першае, што ўгледзеў быў з пярэпалаху – гэта куры з пеўнем і парасяты, што смачна прысмакталіся адно каля аднаго да цыцак рохкаючай мацёры. Моцна здзіўлены, я не спадзяваўся, каб намаляваныя ў дзіцячай кніжцы тыя стварэнні напраўду жылі! Пасля дзівіўся што ні дзень усё чымсьці іншым, урэшце пажарам стадолаў ад грымотнага гневу Бозі.

У травень з чэрвенем ды ў ліпень са жніўнем, гуляючы не выходзіў з сенакоснае аселіцы з капуснымі загонамі, над якімі мільгацелі бялюсенькія матылі. Азіраўся на нашу хатку з рассмяяным акном, рагатліва расчыненым, і ветрык навейваў адтуль попахі смажаных скварак з цыбуляю... Тлусты арамат у перадабедак, калі вядома, што вось дакіпае рассыпістая бульба і ўжо адстаўлена з агню пад фаеркамі пліты гарачая страва з маладзістага шчаўю і з скабкаю свіногa мяса. Ад прыступу першабытнага голаду, які магчымы толькі ў таго, хто расце і дужэе, гнаўся з архетыпным крыкам: „Мама, я хачу есці!"

# Мой малы генезіс

У дваццатым стагоддзі аднойчы жыць давялося. У самых пачатках славянскага ўсходу, у Крынках. У азіяцкія аднак тут зімы, хоць лета час-часом залятае сюды ад Элады. Мікраполісны гімназіён у нас тады – памятаецца – размяшчаўся ў драўляным асабняку колішняга медыка іудзейскага (забілі яго былі рыжыя германе). У юнацтва маё ўрокі ў ім давалі варвары, падвучаныя з мясцовых багатыроў. Яны, праўда, чулі нават пра Сакрата ды ягонага вучня Платона, але ўсё ж шчыра не спадзяваліся, што як хрысціяне пакланяюцца жыду Ісусу...

У той – пасля вялікае вайны акурат – росквіт прымітыўнае цывілізацыі ў тутэйшым старонні надарылася немалая ўдача халопам і плебеям. Ім, зрэшты, заўсёды даволі шчасця з хлеба, віна, пропаведзі; у такім клімаце яшчэ і з жытла. Горадзен іх – Беласток, у нечым кшталтам Афінаў з графаманскім падабенствам Акропалю, у выглядзе чырвонасцяжнае будыніны на валасную меру. Прышываныя дочкі бульбаносыя Карынфа аблюбавалі венерную Кракаўскую вуліцу (па-кашэчаму ўтульную).

Жывецца, вось, бы запацеламу Сізіфу пад гарою.

Вельмі практычна прытым не бярэм у галаву выпадковасць свайго ў кожнага з'яўлення на свет. І таго, таксама, што нараджаемся, каб памерці. Намагаемся затое на сэнс уласнага існавання – хто паўжыцця на куплю аўтамашыны аддае, іншы на бабы растрачваецца; бывае, на гарэлку ўсянютка прасадзіць або ў саладосць скандалаў кінецца; камусьці горб вырасце ад службы вернае... Тлумачыцца тое і тое, і дзесятае, папулярным махлярствам, дбайнасцю менавіта пра ясную долю дзецям родным. А яны ж, наследкі тыя, толькі ў плямёнаў першабытных паўтараюць бацькаў лёс, аб чым ужо ведалі ў белакаменную старажытнасць.

Можна сказаць: і славяне прыдумалі душу... Няпраўда, аднак жа, што і пекла з раем. Няма пэўнасці, дарэчы, ці гэта вынаходніцтва якраз эмацыянальных элінаў у супражжы з рацыянальнымі рымлянамі. Разам з тым досыць камічна гаварыць пра бяссмерце выпадковага. Нашто чалавеку вечнасць? Каб швэндацца неўміручым турыстам пасля зямное натруджанасці?

Бунтарны Ізраіль, пляжаны кесарамі, паспеў ашчаслівіць нас Богам Адзіным. Сын Яго – будзе дзве тысячы гадоў ад банальнага ў тую пару распяцця – надарэмна вучыць дурняў розуму, варагоў прыяцельству, багатых спагаднасці. Але, прынамсі, Богаайца баімся па паганскай традыцыі, замест хрысціянскай любові ўсімі ўсіж. Таму перспектыва раю звузілася ва ўтопію, а вароты ў пекла нядбайна расчыненыя.

З дзіцячай упартасцю вяртаецца пытанне: а нашто ўсё гэта? Жыццё на зямлі дзеля неба? Зямное ў імя незямнога? Такіх сумненняў не наглядаецца ў галодных і халодных. У гэтым, відаць, і адказ. Адназначны, бы арганізм. І кпіна лірыкі смерці, усё роўна што папрок паэтам ды фанатыкам.

Аднаму Богу вядомая сутнасць свету, з чым я гатоў пагадзіцца. Бо ставіць пад пытанне Сусвет гэтак жа бяссэнсава, як і свае нарадзіны.

# Рэмінісцэнцыі

Табе пад пяцьдзесят. Ты: дабіўся для сябе невытлумачальна болыш, чымусьці магло прысніцца табе, вырастаючаму на падпанка ў гады свае далёкія, калі для ўсіх тады пачынаўся гэты новы свет, і вось завяршаецца наша стагоддзе, пра якое некалі запытаюць: а чаму яно было такое – і ваеннае і дабрабытнае?

...На Багача слівы пасмуглелі. На іх папырскаў быў дождж і яны выглядалі незвычайна сакаўнымі. І ад таго яшчэ, можа быць, што дзень жа святочны і пры гэтым ціхі ўполудзень ды барвовы на зыходзе; парумяненая лістота, пахацяць выспелыя агароды.

Ад самюткага рання суседка спраўляла хрэсьбіны. На траве каля ганка яе, па-прыгараднаму вымаджанага дома паразлягаліся напоеныя мужчыны (храплі – у белых кашулях і ў чорных касцюмах, ад якіх яны трохі, як пінгвіны якія). З расчыненых вокан, што на паверсе, з-за далікацтва фіранак у іх далятала сварня ў застоллі, звяглівая і нясціхная ( так, калі застануцца за чаркамі адны бабы). Таму вельмі дарэчы было пайсці адсюль у малінавы закутак і прысесці там сабе на камяні, выгратым сонцам. У настроі, які не параўнаць з адпачынкам ратая або з існаваннем толькі, такім безпачуццёвым. Відаць поле, як прасціраецца яно ад запушчанага парку, маянтковага. Яго прыгажосць бачыш ты ў раптоўным цудзе песні ці ў малітве верша, – панскімі вачыма культуры, памятай. Не-е трасучы гной, і не за плугам...

Засланяючы нанач спальны пакой, угледзіш месяц. Заўважыўшы яго фазу, табе падумаецца, што час прамінае ў нейкім чаканні, аднак жа, бяжыць ён, быццам па-зайчынаму вяртаючыся ў тое ж месца і ўсё роўна што выгледжваючы вочы за кімсьці. Ці дзіва, чаму тваё жыццё не зусім каб патрэбнае, здасца яно табе да крыўднасці выпадковым, хоць і не хапае дзеля яго дня ды з вечарам...

У летняе ўставанне, у той перадспякотны халадок бярэ ахвота папрацаваць – з радасным жаданнем быць прысутным у жывым, зялёным і светлым. У балаціне, што пад Лісіным Грудам, крычыць тамашняя птушка. Ты ўспомніш аднакласніка з паўзабытай вялікагарадской школы; ён, зарабіўшы мільёны, памёр ад рака.

Цябе гняце прымус закончыць сваё незаконачанае, бо яно далося, хаця і ў звычнай табе хамутнай натузе, праз плойму гадоў шэра-шэрых, і ты баішся, каб не апусціць залішне рук. Гэткі спех – твая змора і дакучнасць. Уласцівасць безвыходнага.

У замглёнасці ўзлесся ў бок Пачапка пасецца дзікі звер. Відацьме алень. Чаму ён якраз навідавоку? Гэта ж так небяспечна для яго, апынуцца ў полі зроку чалавека!..

Эх, аўтамашынай паімчацца б табе па шашы ў майскім дрэўі! Панаднейшы смак ад таго, калі ты далей, у глыбі мураванай Польшчы, альбо ў па-заходняму акуратным замежжы. У бацькоўскім жа старонні дагніваюць пакінутыя вёскі, якімі, а каб не, зацікавяцца археолагі зацюканасці ды бядоты. Куды прападае людская праца? – палі зарастаюць хмызам, украпівелыя сядзібы нагадваюць сабою колішнія могілкі з руінаю капліцы, а ўнукам нашым манерным і не ў здогад нават тое, што ёсць ў іх дзяды ды прадзеды... Народ мой хворы бяспамяццю таксама.

Яблык падае блізка ад яблыні. Гэта так, як лёс маці паўтараецца ў дачцэ, праўда, па-свойму... Хвалімся, галытва ўчарашняя, вялізным кавалкам хлеба, нарэшце і катэджамі з мансардамі, каб папанстваваць, не цямячы чамусьці, што знакі багацця сталі не тыя і што ўсё гэтак жа міражныя яны для нас. Мінулае нацыі, бы абсалютная ісціна або прыцягненне зямное, што моцна трымае нас, – помсліва ці як, не дае нам выпрастацца, пазбыцца анамаліі росту.

У Крынскай пушчы ўпаткацьмеш паляны з вывараценямі і лугі, ад хараства якіх затрымціць табе ўваччу. Адзін лес старасць упрыгожвае, і ён веквечны. Будзе мець рацыю той, хто прыраўняе да яго культуру (без яе свет сам не ведаў бы пра сябе, пра тое, што ён быў і ёсць!). Сядзеш, каб ногі табе адышлі, збоч ад сенакоснай траскоты касілак і на строме рэчкі ў лозах, над тою яе затокаю, у якой вудзяць маладых шчупакоў. Вада бруіцца ў ёй у водарасцях, а цябе пранізвае заедлівае: ну чаму гэта мы, чаму забедныя і забедныя?! Дападаем да сваіх шанцаў, а яны, аказваецца, высмактаныя... Ачышчаючы з галчыных гнёздаў комін і апухі, ты дзівіўся, што знаходзіў у іх засушаны трупок піскляняці, як заўсёды адно заморанае.

Еўропа нам даўно за гарамі. Нічога не скажаш, не мужыку ж палацы ў галаве (прынята гаварыць у высокім тоне). А па шчырасці, дык куды працей усенька

ў нас адбываецца – а будзь ты сабе кім хочаш, абы грашавітым! Нішто ёсць усё золата і блакіт дня, тамы кнігаў ды старцаў развагі, сама існасць існасці, – хлісні долі нашай над нашымі, мазаля яе і ганьбы пакаштуй. Вымавіш тады: разумею, – і аціхнеш утомна, без болю (бо ён у таго толькі, хто не пагаджаецца).

Племя маё нагамі дапераду выносяць унукі ягоныя, тыя ж пачужэлыя, і пажыткамі дзеляцца. А мо і застанецца пасля яго ўсяго сытасць бяздумная, якой будзе выгода параю? Калі так, дык пажартавала з нас асвячоная эпоха ўсеўладная, быццам ласкавая пані яснавяльможная калісьці, што служкаў сваіх віншавала імянінна ды за стол свой запрасіла, а мы так жа цяпер наеліся за ім ажно да адрыжкі, усё роўна што за ўсе вякі мінулыя, а як жа глумныя над намі!

# На парозе старасці

І твае дзеці ўвойдуць у сумоту дарослаcці, бы вандроўнікі даўнія ў лес старалінавы. Калі будзеш яшчэ жыць, дык паглядзіш за імі і нічога ўжо ім не скажаш. А яны ўсяго пачнуць здагадвацца ў тым, што і тваё жыццё не было надарэмным. І што апошнія наогул не бываюць першымі.

Успрыймацьмуць, а ці мала хто, свет белы так, быццам створаны ён у пярэдадзень іхных нарадзінаў і, вядома, досыць неразумна. Ажно прыйдзе і да іх той дзень і час, у які ціха скемяць пра паўторнасць сваю, як дачка пра замужжа ўласнае, зазвычай гэтак жа легкадумнае... А і пра тое, што – беларусам трываць, бяды ды паніжэння паспытаць трэба і ў гэтую эпоху абяцаную, каб хоць чалавекам і цяпер застацца.

І, як лета цяплынь узмацняе ў нас адчуванне свайго існавання, і нам добра тады апынуцца на рэчцы ў лузе, калі яна якраз цямнее ад буры, што валачэцца ды грыміць над лясамі, – так супакой жа нейкі блаславёны сыходзіць з вышыняў нават ад думкі аб тым, што, відаць, у даўніну таксама найболын купаліся ў плыткаводдзі менавіта малыя, гэтыя стварэнні шчаслівасці, пры якіх абнаўляемся ж, праўда, усё часцей успамінамі.

Яны, ці бачыце, чужэюць, бо ёсць жа самі навіною, сутнасць якое ў змене чагосьці істотнага. Каб толькі да лепшага – вось няўпэўненасць векавечная.

# Супраслеўскі трыпціх

## I

Жылі-былі людзі тут і заўсёды, як дзень залатаблакітны прыходзіць ды ноч зорная настае. Верылі ў дарунак дажджоў у веснаполі на ўмалот зернехлебны і ў ласку бору жывічна-мядовага, і ў рэчкі бруіста-рыбныя. А яшчэ ведалі, напэўна, што без працы анішто не спорыцца; сваім жа мазалём – не крыўдаю чужою – народы ёсць слаўныя. Выходзілі прашчуры нашы з сярпом маладзіковым на нівы ў Юр'еў абход блаславёныя, пакланяючыся Усявышняму за сяўбу дабрачасную, за калоссе буйнае, і за тое таксама, што пот ненадарэмны. Быць патрэбным не аднаму сабе – гэта даступнасць да вышэйшага сэнсу існавання непустога і да шчаснасці даўгавечнае на ўсе леты суджаныя.

Як без вады ўсякае жывое прападае, а крыніцы яе з глыбіняў тхланных бяруцца, так і з мудрасцю, пачатак якое ў Слове, а Яно было сказана, і навучаліся Яму шчыра-незабыўна. З Ім гэта ж агаралі злыбеды і нашэсці, пакуты розумаў слабых ды сэрцаў упалых, не даўшы ў ганьбу і няволю род наш старажытны, дум ягоных высокія памкненні архангелам белакрылым ахаваўшы. І губляючы Яго ў сумятні будзённасці няўважлівай, калі подых мяртвоты твар холадам абдасць, спасу шукаем, светлячка алтара нязгаснага, і пісанне божакніжнае цалуем губамі спажывы духоўнае прагнымі.

Колькі ні нараджаемся ды адраджаемся, гарыць зорка адна тая над намі, і за ёю дарожымся мы ў старонне супраслеўскае, да Цябе – Віфлііеме Русі маёй Белай.

## II

У пустэльні ціхамірнай Гаспод Бог пасяліўся, на самагрудзе стромістым у даўніну нецяперашнюю. Паміж лясоў неаглядных святлом заззяла нештадзённым у гэтай краіне нам панурай, ад людства адрынутай. Святыня Добрай Весці ўзвысілася ў падхмар'е смутнае на вякі адвечныя, ад тады і назаўжды паднябесныя. Праяснеў жа воблік продка, лёсам зацюканага, ад беспрасвецця ўдзічэлага ў жыццё малавернае. Душа яго акрыяла, сэрца

птушкай забілася, голубам узляцела анельскім, а ў вачах – дабрыня расквітнела васільковая. Цуд у ім, чалавека ў чалавеку, збыўся, самы чаканы з прычаканых, вялікі з найвялікіх – хрыстападобны!

Зямля тут наша айчынная, да крыві касцей родная, са светам з'яднаная ахвярай падіконнаю, адданасцю ўсёцялеснай. Быць нам на ёй, як Госпаду ў вышынях, як памяці ў людзях, як несмяротнасці ў бясконцасці неспасціглай.

Да Супраслі я іду, да Цябе – Іярдане Русі маёй Белай.

# III

Ішоў час агромністы ў край наш забыты, векаванню тубыльчаму надаючы значэнне непрыгуменнае, не адно застольнае. Лясун выглянуў урэшце з ялінаў кашлатых, з ягаднікаў чарнічных сыйшоў, як і заполянік з гоняў жытнёва-далечных, каб зрокам душэўнасці абуджанай угледзець, што быццё чалавекападобнае ёсць не па-звярынаму выпадковае. І не лысая гара, што паміж рачулак з дрыгвянікамі, з небам гаворыць ды не князь у гароднішчы спадаром над спадарамі; не Пярун маланкаю паліць, грымотна ў навальніцу гайсаючы. Богі прыдуманыя, стварэнні бястварыя, пагразныя неўгамонна ўсе да апошняга валадарылі фікцыяй няўмольнаю ў апраўданне язычніцкае ад свету незразумення. Каморнае цемені дамавіковае баяліся, і водарасцяў русалчыных у купанне жнейнае ў плыні зеляністай пад стромаю залужнай. Ад усякіх уцякаць, а жа ж нікому не давярацца ўзвычаеныя, слухалі навуку Хрыстовую, як байку нерэальную, таму і прыгожую... Ажно адкрыліся ўсцяж душы-сэрцы зацямнёныя, бы ў пагоддзе павяснелае, калі вербы маладалістыя суцяшальны знак абновы падаюць; рукі натруджаныя да іх галінак ажыўшых працягваюцца.

Ад тае пары што ні год вітаем мы Госпада, які дорыць нам узрадаванне зямное і задзіночанне ўсёпакаяльнае ў любові выбачальнай, хоць на памятны міг збаўляючы слодычна ад нянавісці пякотнае, усячыны непрыстойнае.

У тую часіну ў Супраслі быць мне ўквечанай, да Цябе я ў думках імчу – Іерусаліме Русі маёй Белай.

# Скарга на гісторыю

Пішу я скаргу на Гісторыю, бо яна нам, як пані тая вялікая!

А мы ж так верна ёй служым працаю потнай ды і адданнем цалюткім, і ўсенька, што толькі трэба, робім жа і робім. Целам і душою парабкуем з кідкай ахвочасцю на тых пrasторах ейных без канца і краю, колькі адно змогі тае ў жылах маем. Нават і не прызнання банкетнага за тое ад яе мы чакаем, але каб ласкава хоць слоўца пачуць на сконе дзён сваіх. Без абразы і з надзеяй шчыра-сардэчнай пазіраем на палацы гэтыя ж светлаваконныя, прадзедамі нашымі чорнарабочымі яшчэ ўзбудаваныя тут, у якіх грымяць аркестры гадавінныя ды па-бальнаму святкуюць дзеля векапомнасці ўдачы ўсё чужыя, аднак жа. Часам і мы возьмем ды закруцім польку-янку на радасць плебейскую ў наваселле новабагатае, і тады даверліва пэўнімся ў тым, што моцна пашанцавала людзіну таму нашаму якраз вылупіцца, нарэшце, на свет белы, калі скінулі спачатку хамут яму з шыі замуленай да лішаёў, а потым бізун цівунскі адабралі з рук падпанка ягонага. І здзіўляемся, што ніхто чамусьці не віншуе нас са шчаслівасцю гэтакай, ды і самі мы, бадай, – здогадам не дурня аб тым, што няма чым хваліцца, – тоімся з ёю ж патроху, бы з грашом нейкім дарагім, усё роўна што той, хто спападаў быў выпадкам яго на тракце карэтамі ўезджаным. І Гісторыя вось зусім не намерана перастаць быць паняй нам, можа, і добрай такой цяпер, як гэта некалі ў Беларусі бывала, і таму, здаецца, а чаго ж болын хацець?

Матачкай мы яе клікаць гатовы, па навыку кроўным ад дзецюкоў колішніх у світцы ды лапцях веквечна, і ад таго ж таксама крыўдаванне камяком расце мне ў горле, бо не надта каб справядлівай яна ёсць дзецям родным, а найменшанькае з іх, беларускае, даўно павінна да грудзей прытуліць, песню часу і яму праспяваць. Але дзе там, усё пра старэйшых думае і калоціцца, пра іх гэта клопат увесь яе без упыну, ды што лепшае ім жа падсоўвае, быццам жыць яны інача́й не змаглі б.

Сэрца ад жалю паліць, а ў душы ные нешта нясцерпнае, і свет клінам мне сыходзіцца.

Я поўны скаргаў на Гісторыю!

# Цывілізаванне Сакольскай

Маё з’яўленне на свет выклікала цывілізацыйны пераварот у нашым канцы Сакольскай вуліцы?

Жылі Яновічы-Антошкі дружынаю ў мінулавечнай хаце з хлявом, ля азярышчанскага выгана з глыбокім ровам ад палёў. Спакойна, калі памёр дзяръліві дзядуля Антошка, (яго ў карчме прыбілі гарэлчыныя сябры). Брат майго бацькі ўдаўся зусім ціхіняю і жанілі яго два разы. Другою жонкаю ўпёрлася яму знароўленая паўінтэлігентка з мужчынскаю ўхваткаю, што за палякамі засядзелася без занятку з паперамі расейскае сястры міласэрнасці; падзарабляла абортамі. Прышываныя мяшчане тут далі бабе празыўку – Вонсы. Шляхецкую для смеху з камандзерскае старое дзеўкі з валосікамі пад носам.

Учынілася цесна не толькі таму, што я ўсё хварэў і надакучліва плакаў. Пасыпаліся дзеці і ў Вонсы. Яна, не будучы зацюканай мужычкаю, падбала пра будучыню ім: потайна апланавала спаліць саламяную калноту Яновічаў. Каб пажар выпаў верагодна і выплацілі страхоўку, трымала язык за зубамі і падпільнавала, калі мая маці рашчыніла хлеб пячы. Заранёў павязаўшы сваё дабро ў вузлы.

Каб не суседзі, нашы не згледзелі б за работаю, што гараць. Пагодным днём страха ўжо добра палыхала над імі, ажно гудзела! Вонсы тым часам адна з усенькім паспела на аселіцу, выправіўшы свайго чалавека ранкам баразніць бульбу пад Александроўкаю. Першым прыбег на бяду буславаты Манах, але, нешта знюхаўшы, кінуўся назад і неўзаметку дым ахутаў і яго кучу. Ад рынку заеліся трубіць ды ламарэндзіць па бруку пажарнікі з помпаю і з бочкаю вады на калёсах; пекна камандаваў імі Жоржык-Лялечка ў серабрыстай касцы. Да Манаха дагопаў жыватасты Булава з драбінаю і вядром, што жыў у парабкоўскай развалюсе каля сэрвітутаў, але яго пугнуў ён, як сабаку! Булава, пакуль здзівіўся, усё зразумеў; саколынчанскія славіліся кемнасцю і сюды пайшла замуж нават жыдоўка, рабацяшчая Лейзаранка.

Пакруціла ў неба чарнотнаю хмараю, бухнула полымем, затраскацелі кроквы і ў Набіноса, і ў Карабельніка. Трапятаўся ад нерашучасці акулярысты

Рухаймозг... Булава над сваімі галавешкамі здумаў крычаць нямым голасам, у якім і сам Госпад не дачуўся б фальшы; жонка з іконаю перад сабою бегала вакол агню. Жоржык-Лялечка запыніў сваю каманду ды раззявіўся. Умомант абступіла яго местачковая галота, што назбягалася адусюль, і нагадвала гэта крыху евангельскіх рымлянаў, упалоханых нападам варвараў на правінцыйны urbi са жменькай легіянераў...

Паліцыянты прыпазніліся. Адышоўшыся да кузні Мондрай Гловы, яны па-генеральску вытрэшчваліся ў біноклі. Ад вірлівае гарачыні ўзняўся вецер, зашугалі вогненныя жмуты. Начаўплі гевалту крамнікі, гаманлівым кагалам абселі свае ханайкі, ратуючы ад запалу. Пажар не дакаціўся да Палесцінскай, пайшоў на спад.

Страхоўку давалі ў магістраце як каму: Яновічам цалкам, нам і Вонсы. Настала пара будавацца. У падлеснай Грыбоўшчыне прарок Гальяш распродваў свой горад Вершалін. Разагнаўшы шпаркім ядлоўцавым дубцом апосталаў, святы збываў завідлівыя хаты з шырознымі вокнамі, з падлогаю і пад чарапіцаю. Сакольцы абдурвалі яго з польскімі грашыма, на якіх не знаўся. Днямі і начамі перавозілі абозам перасыпаныя сцены, бэлькі. Кафлёвыя печкі. Трохі баючыся, каб ён часам не раздумаў. Шанц удаўся найперш Манаху, які ўмеў загаворваць зубы Святым Пісаннем.

Вонсы панатурылася ўставіць у сябе венецыянскія вокнішчы, рыхтык царскія, бы ў яе кнізе з малюнкамі князёў і княгіняк. Можа быць, так і зацясалі б, калі б майстры не скурылі тыя паперкі... Здарылася з імі яшчэ непрыемнасць: мандакавалі, каб не ставіць асобна хлявы, бо ў маразы цяплей начуецца з авечкамі, суха і мякка. Затое абсмяялі яны Булаву, які натапырыўся наваліць гліны на ўкладзеную яму падлогу (хацеў мець па-даўнейшаму). Сакольшчанскіх багатыроў закасаваў цяпер, аднак, Карабельнік, заказаўшы ўмясціць на гарышчы пакойчык з ваконцам. Летам жыцьму ў ім, тлумачыў. Карабельніку, як Карабельніку, не верылі і пляткавалі, што будзе мэнчыць там удовы, здаля ад вачэй хваравекае старое...

Падняў лямант недапечаны Франак-Анёл. Шалёнаму заманулася справядлівасці Гальяшу і кляў ашуканцаў. Абзвягаў Манаха, напляваў на бараду Булаве, парнуў кійком у пуп Набіносу, а Карабельніку намазаў глеем на дзвярах чорта з рагамі і голую Еву. Яновічаў ён не чапіў, нашых і Вонсы.

Шанцоўнікі – урэшце – падкупілі лахмана залатоўкамі на імшу, і той даў ім слова замаліць перад Богам іх лайдацтвы.

Слаўна ўбудаваліся! Мой дзядзька ставіў фасонны плот, але яго Вонсы крывілася на штыхеты з вярхамі кшталтам бубны (не пераносіла карцёжнікаў). Настойвала на форме сэрцайка. Перарабляць аздобіны не хацелася яму, за што дастаў ад яе абрэзам па гарбе. Ён пасыкнуўся быў даць ёй аполкам, аднак жа паказала яна сябе школенай у паядынку. Раскірачыўшыся, бы крыжак пад Грунвальдам, выбівала з дзядзькавых рук усё, чым замахваўся. Ляскатлівая бравура не цягнулася доўга і, безабароннаму ўжо, уляпіла па шчацэ смачную аплявуху, усё роўна што нейкую прэмію. Маўклівы і задыханы заенчыў ён, што няхай той бык здохне, якога пабарола карова, і сапраўды прапаў у нямецкую неўзабаве вайну.

Балячкаю на азадку кожнаму муляла праблема нужнікаў. Бурмістр прымушаў збіваць з дошак тыя шпакоўні, лупіў штрафамі. Людзей брала злосць або рогат. Да тых, хто паслухаўся яго і змайстраваў гэтую непатрэбшчыну, паўнаджваліся свінні, што пагражала ганебным калецтвам (асабліва мужчынам).

Заставалася тое, чаго не надта прагна ўяўлялі сабе на Сакольскай: мыцца па-панску. І хоць маянтковыя курвы займальна распавядалі на гэты конт ды, усё ж, чым дакладней, тым менш было ў тубыльцаў ахвоты слухаць таго. Адзін Карабельнік захапіўся быў. Ванну ён, праўда, бачыў у бурмістра, але больш яна яму спадабалася як вадапойны жолаб каню і для быдла; сам не палез бы ў яе, быццам той угрэты кныр у лужу. Рухаймозг падказаў яму пачапіць на жэрдку поўнае вядро і – шнурком нахіляючы сабе яго над галавою – паласкацца ў жніўную спёку. Простая інжынерыя чыпела, пакуль не грымнула звысоку па чэрапе... Пра іншых гігіеністаў не чувалася.

Не адно ў натруджанасці жылі. На Багача абавязкова пылілі на прывыганні музыкі. Рэзаў на гармоні валачашчы Мазоль, у бубен грукацеў ягоны байстручок. А калі пры немцах народ распіўся самагонкаю, сенсацыйна буянілі на Валоссю, ад якое пачынаўся вялікі пост. Мазалю было тады жніво: у каго зарабіў, у каго прыкраў і такое бяды. Хадзіў ён з тым хлопчыкам трохі як калядоўшчыкі; яго пасцельныя анекдоты прыдавалі сэксу манатоннай алкагольнасці і ўдзячныя тады гаспадыні не шкадавалі яму за гэта эратычна закругленых кілбас ці па-ратайску важкага акрайца сала.

Малалеткі не былі такімі еўнухаватымі, як цяперашнія. Гэта нічога, што не разумеў я клятых назваў геніталіяў, але нарачоную сабе назначыў. І як заўсёды ў сваю, яшчэ няхуткую, маладосць бяздумна. Нашмат старэйшую і недаступна дзікую – аказалася пасля – згвалтаваную артылерыстамі-мазурамі, што акапаліся былі за будынкамі і падбівалі савецкія танкі ў жытах, якія ў тадышняе адступленне праставалі на Гродна...

Але занадта далёка я ўжо забег дапераду.

# Рускі Базар

Хоць і грэх гэта, але хочацца пазайздраваць Госпаду Богу нашаму, які ціхамірна адпачываў быў у сёмы дзень пасля стварэння Ім свету. Добрая ў Яго, спакойная і прадуманая, без неспадзяванак арганізацыя працы. Зусім не тое, што ў мяне... Накупіў я на сваю галаву хатняе тэхнікі, каб лягчэй мець у штодзённы побыт. Не лічыўся, булава, з новай мудрасцю, што машынерыя ў руках варвара – страшней гранаты!

А ўсяму вінаваты, папраўдзе, той дзікарускі базар, што рассеўся бабамі ў мястэчку. Каб не ён, жылося б, хай сабе надалей прымітыўна, аднак, як у Бога за спіною. Да маладаступнасці нам польскіх цэнаў мы прызвычаіліся ў спрадвечнай тут беларускай бяздарнасці і багацеем толькі ў марах. Радуемся пры тым, што ў параўнанні з расійскім абадранствам, то і без варшаўскага шчасця бяды нямаш.

Беларускія саветкі з-за кардону навалаклі на рынак сюды дарэмшчыны. Няйначай сам Сатана падкусіў мяне набыць у іх мікрахфалевую духоўку, плацячы ім за яе менш, чымсьці нядаўні мой штраф, што ўляпіў мне паліцыянт за абразу ягонай службовай асобы (я спрабаваў вытлумачыць яму, што ён ёсць дурань ды ганьба Польскай Дзяржавы). Мікрахфалёўніца, быццам з ласкі адпрацаваўшы неяк палову гарантыйнага тэрміну, загарэлася. Спачатку валіў дым ад ейнага трансфарматарыка, чамусьці рыжы і з попахам гарачых бульбяных пляцкаў.Заўважыўшы, што ад яго здыхаюць мухі ў кухні, я прафілактычна ўключаў час-часам гэтую маскальскую канструкцыю, пакуль – аднаго разу – не жыхнула з яе полымем.

Вырашыў абмежаваць свае амбіцыі да куплі электрычнае брытвы (якраз «Бердск» перапрадаваў за сабачы грош сваякаваты мне капрал былое арміі Андэрса, што карпела некалі на італьянскім фронце). Машынка на выгляд выклікала давер, накшталт жуліка з тварыкам анёла. Калі застаўся я з ёю сам-насам перад люстэркам у пакоі, тая механічная зараза кусанула мяне за верхнюю губу, зрэзаўшы пры гэтым барадаўку (хто ведае, ці не ракатворную?). І буяла, усё роўна што самалёт у вайну, што бамбіў маянтковыя хлявы, у якія пахаваліся былі нямецкія ўкраінцы, захапацеўшы тутэйшыя курвы... Колькі яе потым не мазаў я алівай, ні трохі не папраўлялася. Урэшце ўзяла і захліс-

нулася. Аддаў неўдалоту ў цацкі дзецям, а яны, засранцы, напалохалі бліскучкаю цётку Мальвіну з Баб'яе Гары, ад якое не мелі мы дагэтуль адбою (памятала яна пра якіясьці процітанкавыя міны, на якіх падарваўся яе нябожчык мужык, што вёз возам сена з Чортавага Балота, калі саветы пагналі немцаў ужо пад Беласток, у сорак чацвертым).

Падумаў: Бог з жалязякамі – спірту набяруся на тым базары. А каб не, збылі мне яго танней самагону. Прычакаў нядзелі, каб паспытаць, бо ў будзень усё ж забаяўся: работы шмат. Адразу пацямнела ў мазгаўні ад яго; у вачах жа крыху пазней, калі ахапіў мяне прымус бегчы ў прыбіральню, у якой, здавалася, так і памру загаліўшыся... Кідала ў дзіўны холад. Шчасліва здагадаўся піць кіслае малако.

Не адзін я аказаўся дурнем. У Баб'яй Гары ўсё вяселле гэтак выкаціла. Казалі: маладуха першаю брыкнула ўверх нагамі, растапырыўшыся на падлозе... Гэта паратавала маладога, які не паспеў па-хамуцку наліць сабе горла. Іншых пакалечыла лакомлівасць на глыбокую чарку. Дзякаваць Богу, пайшоў на той свет адзін усяго сват. Праўда, старшага дружбанта выпісалі са шпіталя вар'ятам. І чыюсьці дзеўку, якая цяпер рагоча без дай прычыны, голаю сядае пакатацца на ровары... Найбольшае дзіва, што постбалыдавіцкі спекулянт, раскватараваўшыся ў іх, запісаўся потым жыць з бяздзетнаю ўдавою свата і, прыдбаўшы на гэтай падставе польскія паперы, драпануў у Нямеччыну.

Пакуль тая камедыя здарылася, я не стрываў ад нагоды старгаваць запалак з горада Чудава, фабрыкі „Пралетарскае полымя". Зрабіў запас. Як ні шморгаў пасля іхнымі галоўкамі, агнём не займаліся, акрамя некаторых... З якіх, акурат добрая, зламалася і адляцела ў кут са смеццем ды старымі газетамі. Скончылася тым, чым павінна было: хату не спаліў, выратаваў, але мышэй ляснула!

Кінуў хадзіць на базар.

Грошай як бы пабольшала ад гэтага часу, хаця я імі ніколі не раскідаўся. Цяпер жа яксьці сонна на душы... Няўжо адкрыў я гэта прыгажосць катастрофы і, разам з тым, сэнс самое Расіі?

# Элегія беларуская

Ціха ты, Еўропа! – нацыя мая родная ўжо пры смерці, мову ёй адымае. І не трубі па ратунак, захварэла яна па-мужыцку невылечна. Няхай спакойна на той свет адыдзе, без пакутаў дарэмных, сябе і іншых не мучачы лішне. Даволі і так пажыла, ледзь з духам нарадзіўшыся, жыццё сваё пракаратаўшы сяк-так, з горам ды бядою. Як неўдалота вясковы, яна найболыд сама сябе заядала; беднаму ўсё вецер у вочы, а багатаму чорт дзяцей калыша.

Нацыя беларуская, ты, як бабуленька непатрэбная, калі ўнукаў пагадавала, – дабрынь твая перастала даваць карысць. Задобрай ты была, занадта спагаднай і падатлівай у новы час, у які шануюць таго толькі, каго баяцца. Божамаці народаў ты, Беларусь, без права на быт рэальны, а ўсяго на легенду паклонную. Ікона не дае хлеба, таму не ўсе да яе моляцца.

Успамінаць Цябе будуць цёгшым словам, як кожнага, каму лёс выпаў скупы, незайздросны. Крыўда, аднак, не мінае такіх аж да канца, спасылаючы забыццё сусветнае.

Калі напэўна што пастаяннае і векапомнае, дык гэта – зло.

# Адзін я ў вечар калядны

Зорка па-над бацькавай хатаю апусцелай урачысціцца. Стаю на падворышчы дзяцінства свайго, у цішы паднябеснай. Снежна-снежныя далі скугольна сінеюць ў месячнай бляклясці. Дрэвы трэскаюць у маразечу, бы стрэлы паспешлівыя беластоцкіх браканьераў у Перацёсах. Чарнацяць платы ўдовіны паваленыя. І сам-самюткі я перад сусветам тхланным, халодным халадэчаю прадчуванаю. Каб хоць брэх слiністы сюды аднекуль, з ваколіцы па-касмічнаму мёртвай, да якое пушча век-вечная скрадліва падступаецца, вяртаючы сваё.

Зорка калядная зіхаціць арэолам нада мною. Няма каму паклікаць мяне Хрыста людна вітаць, Русь тут вырадзілася. Не расчыняцца цёплыя дзверы з го-ласам матчыным. Буду, можа, здзіўляцца самім сабою, чаму не пабег за народам тлумным у маторнае святло праспектаў гаманлівых? Застаўся з маўклівымі ценямі продкаў па-халопску забытых. І ўсё роўна, што не вельмі каб разумна літуючыся над імі...

Айчыны шкада, хай хоць для мяне яна патрэбная.

# 18

Сьцяпан вярнуўся ў габінэт – упарадкаваць паперы, што пакінуў на пісьмовым стале. Імі мог гэтага не рабіць, пайсьці дамоў, але любіў пачынаць наступны працоўны дзень, як казаў, на чыстым: засьмечана на стале, засьмечана і ў галаве! („Ужо старажытныя заўважылі сугучча цела й душы, ладу й дакладнасьці думкі”, – неяк павучаў Сумленевіч і чыесьці вочы сонна павузелі ад таго.)

Як добры дурань, ён зь незвычайнай сумленнасьцю ўзяўся ажыцьцяўляць даручанае яму заданьне – са складваньня рапарту аб арганізацыйным становішчы ў каапэратыве, дакумэнтаванага выяўленьня яго слабых і моцных бакоў. Зь верай у пераканаўчасьць аргумантаў.

Сумленевіч насіў у сабе крыўду на тых, якія сумняваліся ва ўдачы ягоных захадаў або, досыць адкрыта, сьмяяліся зь іх, прытым не фармулюючы абгрунтаваньня сваім высновам. Але й яны паціху жадалі Сьцяпану ўсяго найлепшага й, таксама, спадзяваліся на зьмены ў каапэратыве. Ім і ня сьнілася тое, што, настойваючы на паляпшэньні чагосьці, можна мець на ўвазе адваротнае.

...Сьцяпан падпаліў аўтамашыну старшыні дваццаць трэцяга чэрвеня, у ноч з чацьвяргу на пятніцу. (Камісія Сумленевіча, як называлі яе на прэтэнцыёзны манер, практычна ўжо не йснавала, пахвальна выканаўшы прынятае на сябе; справаздача – машыністкі перапісвалі яе ў пяці экзэмплярах – была падзеленая на тры часткі: „Арганізацыйнае становішча ў каапэратыве з асаблівым разглядам сытуацыі ў ваддзелах”, „Прапанова паляпшэньня дзейнасьці аддзелаў і пэрспэктывы іх далейшага разьвіцьця”, „Заключныя заўвагі”.)

Упярэдадзень здарэньня Сумленевіч прадставіў шэфу чарнавы варыянт справаздачы, над якім яны абодва доўга прасядзелі. (Людзі потым усяляк перадавалі размову паміж імі, рагочучы са Сьцяпана.) Ён сьцьвярджаў у сьледзтве, што старшыня абразіў яго, кпіў з камісіі: – Пакажэце, што вы навыдумоўвалі за тры месяцы.

– На мой погляд, гэтыя матэрыялы павінны дапамагчы кіраўніцтву ў выпраўленьні шэрагу недахопаў, – сказаў тады старшыні Сьцяпан.

– Вы, пане Сумленевіч, э, правільна зрабілі, прыходзячы да мяне перад канчатковым адрэдагаваньнем справаздачы камісіі. Я разумею, што гэтым, э, вы парушылі яе аўтаномнасьць, але, э, я запэўніваю вас: ня буду хваліцца нашай сустрэчай. Гарантыяй таму – супольнасьць інтарэсаў. Ці. э, ня так?

– Песумненна, – адгукнуўся Сьцяпан, абмінаючы намёклівы падтэкст у запытаньні старшыні. – Маюцца магчымасьці, як самі вы пераканаецеся, на грунтоўнае аздараўленьне каапэратыўнай гаспадаркі.
– Пабачым, э, пабачым... – старшыня чытаў, усё роўна быццам-бы вышукоўваючы памылковае ў напісаным. Яму званілі, і ён адказваў у тэлефонную трубку: „Так". За каторымсьці разам ён адказаў: „Не". І – двухразова: „Выканана". Ад такога аднаслоўя было Сьцяпану сьцішнавата. – Што-ж, няблага, няблага... – гаварыў старшыня, наносячы на чарнавы тэкст справаздачы заўвагі.
– Дружна папрацавалі ўсе.
– Я, э, ну... – ён выпрастаўся. – У мяне, э, ёсьць тут заўвага, дробязная, э, вось, у гэтым месцы, – старшыня ўказальным пальцам павёў па першых сказах другой часткі справаздачы. – Прапаную вам падкрэсьліць тут дасягненьні... Скажам, прыкладна, э, так: „Нягледзячы на бясспрэчна вялікія дасягненьні каапэратыву, наглядаюцца ў яго дзейнасьці, праўда, і некаторыя недахопы..." Га?
– Калі ласка, – згадзіўся зь ім Сьцяпан і ўласнаручна ўвёў у чарнавік папраўку.
– Яшчэ дзе?
– Бачыце, э, у сьвятле вышэй папраўленага ня надта апраўдана гучаць дзе-якія высновы... Вось: „Неабходна правесьці кадравую вэрыфікацыю кіраўніцкага пэрсаналу ў ваддзелах, кіруючыся перш за ўсё спэцыялістычнай кампэтэнтнасьцю ягонага асабовага складу", – старшыня падняў галаву й зноўку яе апусьціў, паглыбіўся ў чытаньне. – Гучыць фальшыва, не? Прапаную: „Правесьці больш строгую кадравую вэрыфікацыю..." й гэтак далей. Э, га?
– Нашто вам, пане старшыня, такія фармулёўкі? Яны якраз і фальшывыя, будуць гаварыць няпраўду. Тое, менавіта, што, маўляў, ёсьць вельмі добра ў нас і можа быць цудоўна, гэ-гэ-гэ... Выбачайце, мо' я не зразумеў вас? Але калі мы ўзяліся дапамагчы вам, пане старшыня...
– Дапамагчы мне? Жартуеце, пане Сумленевіч!
– Як гэта?
– А так! – засоп старшыня. – Вы ўявеце сябе самога, э, на маім месцы. І вам прыносяць такую, во, справаздачу. Вы чытаеце яе. І што, э, робіце самі?
– Калі ласка, пане старшыня, – суха загаварыў Сьцяпан. – Я аналізую яе. Склікаю ўправу каапэратыву. Я ўжо ведаю, што трэба зрабіць. Праводжу, мэтанакіравана, дыскусію ва ўправе, арганізоўваю чыстку...
– Не, э, вы не ўяўляеце сябе на маім месцы, шаноўны пане. Вас яшчэ не ўкусіла

свая вош. Вы не перастаяце гаварыць зьнізу ўгору, вось, э, зьнізу, усё зьнізу, э, задраўшы галаву... Не дапамагаеце вы, а – вымагаеце... Вымагаеце ды ўсё выма- гаеце... – старшыня працягнуў руку ў барык. – Зробім, э, па чарцы?
– Не пачнем-жа мы, цэлай камісіяй, утойваць тое, што дрэннае ва ўстанове, – Сьцяпан машынальна надпіў з падстаўленай яму чаркі з каньяком, – пераўтварацца ў банду ашуканцаў! Прабачце за вострае слова.
– Чаму, Сьцяпане, ты трапна здагадваесься ды, э, памылкова разважаеш, га? – запытаў ён голасам імгненна закаханага. – Ты патрэбны мне! Разумееш? Я абяцаю табе, што на працягу двух гадоў ты зможаш купіць сабе аўтамашыну, э, а ў пэрспэктыве – збудаваць асабняк і жыць, э, не аглядаючыся на ласку цесьця. Ну, э, як табе гэта падабаецца?
– Мне, калі ўжо пытаецеся, гэта не падабаецца.
– Чаму?
– Вы прапануеце мне быць злодзеем.
– Ты гэта так зразумеў?
– Менавіта, так.
– Не гарачыцеся, пане Сумленевіч. Прадумайце ўсё. Пагаварэце з жонкай, зь цесьцем...
– Дзякую вам за параду.
– Я – усур’ёз!
– Я – не сумняваюся ў гэтым.
– Ну, э, так, – старшыня дапіў сваю чарку. – Ну, а над справаздачай камісіі, я так лічу, э, вы яшчэ папрацуйце зь вечарок... Э, няшмат тут трэба ў ёй дарабіць. Галоўнае, гладзей пачаткі новарадкоўяў...
– Ня будзе, пане старшыня, ніякіх вечаркоў, ні даробак, пераробак, крываробак, і ўсялякіх недаробак. Будзе так, як напісана! – ён выхапіў з рук старшыні паперы й зьнерухомеў, ад абурэньня ня могучы ўжо гаварыць.
– Смаркач ты! Думает – хто-небудзь гэтае, э, падпіша табе?
– Я сам падпішу! – сарвалася ў Сьцяпана. – Вы кожнага запалохаеце, але не мяне! Падпішу, разашлю, куды трэба, даволі ўжо... – ён зацяўся ў сабе.
– Гэта, э, будзе твой апошні подпіс у каапэратыве. Абяцаю табе!..
– Пажывем – пабачым...
– Бывай здароў і, э, наракай на самога сябе.
– Не... Я не дарую таго!
– Халера цябе ведае, э, чаго ты, э, хочаш.
– Да пабачэньня вам, – Сьцяпан кінуўся ў дзьверы.
– Ідзі з Богам...

Старшыня гаварыў далей, але Сьцяпан ужо ня чуў яго. Ён выбег на вуліцу, забыўшыся пра летні плашч, які пакінуў у сакратарыяце. (Парт'е даў у сьледзтве паказаньні, што Сьцяпан, бы ненармальны, зьбягаў з усходаў першага паверху, мармычучы пад носам: „Я табе пакажу!.. Я табе пакажу!..")
Знайшліся й такія, што бачылі, як Сумленевіч падпальваў машыну. Ён, сьведчылі яны, выпусьціў з бака бэнзін, каб не дайшло да выбуху, што дадаткова даказвала сьвядома злачыннае дзеяньне Сьцяпана на шкоду пацярпелага старшыні. Бак усё роўна ўзарваўся-б, аднак-жа так ня сталася; нехта казаў, што Сьцяпан наліў у яго поўна вады... Агонь ахапіў нават калодзежык каналізацыі, куды нацякаў успалыхнулы бэнзін і адкуль – таксама й гэта бачылі – выскоквалі пацукі (аднаго, спаленага, усе хадзілі глядзець, але, аказалася, гэта быў жмут клочча ці пакульля). Гаварылася – калі Сумленевіча выпусьцілі з камісарыяту – што ў той машыне старшыні сядзела яго, Сьцяпана, жонка, бязьдзетная фахоўка, і ён з францускім ключом у руцэ пагнаўся за ёю, а яна, скінуўшы з ног пантофлі на высокіх абцасах, паімчала цераз нізкія платы агародаў у кірунку стражніцкай вежы пажарнікаў, каб, падняўшы там трывогу, выратаваць рэшткі дабра ягонага шэфа...
Нікому й не падумалася, што Сьцяпан Сумленевіч сам заявіўся ў міліцыю. (Калі адчуў, што можа забаяцца сваёй задумы.)
Сяржант прабурчэў да Сьцяпана:
– Ідзеце вы дахаты, бо іначай пасадзім вас у выцьвярэзьнік.
– Я ня п'яны, – ціха запярэчыў яму Сьцяпан. – Я прыходжу да вас са справай, і вы абавязаны выслухаць мяне.
– Чуў я тое, хопіць! Трэба будзе – паклічам.
– Што я павінен зрабіць, каб вы мне паверылі?
– Перастаць дурыць нам галаву.
– Мо' пабіць шыбу ў вакне камісарыяту?..
– Я табе паб'ю! Я, ведаеш, што табе паб'ю за гэта? – злосна паўстрымаўся міліцыянт. – Ну, ваш адрас я запісаў. Да пабачэньня вам.
– Вы мяне абражаеце!
– Чым?
– Даючы мне зразумець, што я – ненармальны.
– Вы, кажаце, спалілі машыну й яшчэ хочаце запэўніць нас, што зрабілі гэта напэўна вы, каб, крый Божа, мы часамі не памыліліся. Ці вы, скажэце мне, лічыце нас дурнямі?
– Я прашу вас: складзеце пратакол допыту мяне.
– Мы – не бюро бытавых паслугаў насельніцтву. Ясна?

– Калі так, дык, калі ласка, зьвяжэце мяне з капітанам.
– Які вы чалавек! – зьнецярпліўся сяржант. – Ну, ідзеце вы адгэтуль. Па-добраму вас прашу: ідзеце сабе дахаты.
– Я нікуды адсюль не пайду!
– Званіць мне па карэтку хуткай дапамогі? – сяржант паклаў руку на тэлефон, які, як на тое, якраз зазваніў; ён уздрыгануў. – Сяржант Дуля, слухаю, – сказаў у трубку. – Выканана, – далажыў ён камусьці. – Ага. Так. Што? Не, – ён павярнуўся бокам да Сьцяпана. – Разумею. Не. Не. Не. Раблю, што магу... Так. Так. Ясна! – сяржант паклаў тэлефонную трубку й даўгапісам натхнёна пачухаўся за вухам. – Гм, – уважліва прыгледзеўся ён да Сьцяпана, можна сказаць, з сардэчнасьцю. – Дык, значыць, вы жадаеце даць паказаньні?
– Вас аблаялі? – Сьцяпан: „Што я найлепшае раблю, ідыёт?! Хачу-ж дабіцца ўмоваў дзеля зьнішчэньня кагосьці, хто...”
– Дайце мне, калі ласка, ваш пашпарт, – папрасіў ён у Сьцяпана, выклаўшы з шуфлядкі колькі пратакольных блянкаў.
У Сумленевіча пашпарту не аказалася.
– Хвароба, я, мусіць, пакінуў дома... – Сьцяпан абшукваў кішэні, але ўжо ведаў, што надарма. – Нашто сумленнаму чалавеку пашпарт патрэбны? – гаварыў ён, бы той, хто нарэшце дачакаўся пачастунку й, пакуль, дзеля прыстойнасьці, аднекваецца ад яго. – Вось, не падумаў я, гэ!.. Мо’ хопіць вам мая службовая легітымацыя?
– Давайце.
Складаньне сяржантам пратаколу працягнулася не даўжэй за паўгадзіны. Сьцяпан, звычайна, прадыктаваў яму вопіс здарэньня. Паспрачаліся яны наконт матывацыі ўчынку.
– З вас – недурны госьць, а пляцеце тут, ажно слухаць брыдка, – упарціўся перад Сьцяпанам сяржант. – Вы будзеце адказваць перад судом за падпал. Вашы галаслоўныя абвінавачваньні старшыні мяне не цікавяць. Нам неабходныя факты, якія магчыма праверыць. Як кіраўнічы працаўнік каапэратыву, вы разумееце, што адных падазрэньняў мала, каб на іх паставіць справу. У сё, што вы гаворыце пра свайго шэфа, не пазбаўленае агульшчыны, ананімнасьці. Мо’ вы чаго баіцеся? Не? Слушна! Ад страху яшчэ ніхто нічога добрага не зрабіў. Што? Прабачце, я вас добра не дачуў... Ці ў нашай фірме бывае зло? Канкрэтна, у камэндантуры? Гм, дзіўны вы – першы раз бачу я такога кніжнага, такога Няхлюдава... Што? Якая ў мяне адукацыя? Сярэдняя. І вучуся я далей. Чаму вы пытаеце мяне пра гэта? Ага, таму што я не афіцэр. Буду ім. Адкажу вам на папярэдняе

пытаньне: зло – гэта наш надзённы хлеб. Адсюль – натуральнае тое, што праяўляем мы асаблівую цягу да прыгожага ў чалавеку. Жывем-жа мы ў смуроднай атмасфэры, зьяўляемся як бы чысьцільнікамі грамадзкіх адходаў, таму, па-афіцэрску, кахаем адэкалёны. Вы разумееце мяне? Прафэсійнае скрыўленьне – змоўніцкае бачаньне намі рэчаіснасьці... Вам гэта ясна? Дальбог, вы цікавы тып! Штосьці вам скажу: з вашым характарам трэба шукаць сабе месца ва ўстанове, дзе няма буйных фінансавых апэрацыяў, значыць, і... Што? У міліцыі? Не, вы ў нас нару- балі-б дроў болей, чымсьці трэба. Тут мус ведаць жыцьцё, мець на яго нэрвы. Вы занадта тонкаскуры. Шчыра кажу вам: шкада мне вас! Вельмі спрыяльнай вам акалічнасьцю зьяўляецца ваша добраахвотнае прызнаньне ў злачынстве. Дастанеце на судзе, я лічу, гадок умоўнага пакараньня турмою плюс рамонт машыны на ўласны кошт. Кар’ера ваша, вядома, лясьне. Малады вы, дык лёгка дагоніце страчанае, і перагоніце...

– Дзякую вам за суцяшэньне, пане сяржант, – Сьцяпан устаў. Яму надакучыла слухаць яго. – Я, здаецца, ужо магу йсьці?

– Так, – пацьвердзіў яму сяржант, неяк увесь суцішыўшыся. – На наступны допыт вы атрымаеце ад нас позву.

„Дабіўся я галоўнага: стварыў дакумант, на які змагу паклікацца ў гутарках з капітанам, – развважаў Сьцяпан. – Сёньня, не, заўтра зьвяжуся зь ім. Паверыць мне ва ўсё, калі даведаецца, чаго я начоўп! Тады й мы пагутарым сабе пра старшыню ды ўсялякую сволач!”

У бары Сьцяпан напіўся піва.

## 19

– Дзе ты, Сьцяпан, быў?! – насупонілася Кіра. За ёю, пазмрачнелая, стаяла цешча, а з кухні, аблізваючыся ад абеду, выйшаў цесьць. – Куды гэта цябе носіць?! Што з табою?

– Нічога, – Сьцяпан: „Ого, ужо зьбегліся ўсе!” – Здарылася што?

– Яшчэ й пытаеш, – прабубніў цесьць.

– Ідзі, бацьку, бо спозьнісься... – сказала да цесьця старая, быццам баючыся, што ён, вось, адпярэжа дзягу ды возьмецца лупцаваць Сьцяпана. – Сядай, Сьцяпанка, есьці, – замітусілася яна.

– Няхай сабе есьць, калі можа, – сказала пра мужа Кіра.

Сьцяпан, распрануўшыся, памыўся над ваннай. Мокрым ручніком націраў

ён карак і плечы. Тульнуў я, як голы ў крапіве, – уколамі распаўзалася па яго целе сьвярбячка. – Кіра як Кіра: хацела-б усё мець і, адначасова, нікога не чапіць. Ці яна кахае мяне? У дадзены момант важнае, бадай, тое, што Кіра да мяне неабыякавая. Каханьнем, магчыма, мы называем патрэбнасьць у партнэрстве, – ён выціснуў прышчык на барадзе. – Спальваньне чараўніцаў у Эўропе адбывалася ўпярэдадзень новага... Аўтадафэ ў Італіі палыхалі ўпярэдадзень...” – ...сам ён накруціў усяго, вар'ят! – вывіскнула Кіра да маці. Гвалтоўна скрыпнулі дзьверы, зацокалі яе крокі, коратка.

Пабегла яна да гэтай Ані, здагадваўся Сьцяпан. Калі жонка шукае спагады ў сяброўкі, дык гэта і ёсьць трывожная праява пазьбяганьня адчужанасьці да мужа, пошукаў бясьпечнасьці там, дзе яе няма. Урэшце – гэта і перапалох ад самоты, і прыступ зацьменьня, у якім можна дзейнічаць толькі на шкоду ўласным інтарэсам. „Я аб нічым не папярэдзіў яе, не пагаварыў зь ёю... Гм, я-ж ня ведаў, што ўсё так атрымаецца...”

Паабедаў Сьцяпан адзін.

Цешча падыходзіла да яго, каб запытаць, ці даліць яму супу, або дадаць бульбы з сэльдэрэевым соўсам; катлета, сасмажаная па-варшаўску, мела адмысловы смак. Кампот зь ігрушаў, гаркавы ад лішняй дозы карыцы, давіў, і цяжка было піць яго. Дзіва – столькі зьеўшы, Сьцяпан далей адчуваў голад.

І сонную млеўкасьць.

Ён прылёг адпачыць.

„Ну, пайшла яна расказваць, што я спаліў старшыню...” – Сьцяпан перавярнуўся на правы бок, выцягнуў далонь з-пад скроні, і кроў запульсавала цішэй. Слабавалі яму ногі, нылі, абясьсіленыя...

* * *

...Прыпякала сонца. Калі праяжджалі яны праз ядлаўцовае кустоўе, было асабліва душна ад разагрэтай настойкі пахаў. Чарнеў высмал па вогнішчы ля дарогі, адкуль пачынаўся прасьцяг пашы, у канцы якой выстрамляўся пад борам комін спаленай лесьнічоўкі й хіліўся да зямлі склеп з маладой бярозкай на гарбе.

– Гэта там – іх?.. – маці прыкметна кіўнула галавою ў бок пажарышча. І ўздыхнула яна са словамі: – Божа, Божа...

– Ага, – хутка пацьвердзіла ёй цётка. Яе паспалітая постаць адрозьнівалася тым, што была яна жахліва тоўстай і мела ймя, здаецца, Люба.

– Ціха, бабы, – прыструніў іх дзядзька. Да ягонага выгляду падыходзілі словы: „Ну, каму ў морду?”
– Кажаш, іх – пад ранак?.. – дапытвалася маці ў Любы.
– Ага, Імполь бачыў...
– Но-о, буланка! – дзядзька сьцебануў пугаю кабылу й воз загрукатаў на каменьнях у каляінах, валакучы за сабою хвост пылу й заглушаючы размову.
Маці шукала бацьку. Ён – Сьцяпан ужо ведаў аб гэтым – пайшоў на банды, добраахвотнікам пайшоў, з суседам, худым і даўганогім бы певень, дзядзюлем Колем, якога называлі – убовец. Рушылі яны ўночы. (Сьцяпан чуў, як маці тады плакала, а бацька злосна штосьці тлумачыў ёй, не дакончыў, якраз засыгналіла машына на вуліцы... – Галонзка паб'е вас, – прарочыла яна бацьку. – Гаўно ты ведаеш! – крыкнуў бацька й па сьцяноўцы заскрэбла нешта цяжкае, відаць, прыкладзіна вінтоўкі, калі ён адвярнуўся, каб выйсьці да чакаючых яго там, дзе таемна гудзеў поначы матор.) А ўдзень стала вядома, што Колю забілі. Аб гэтым паведаміла Чэся. – Ідзі да УБэ ды папытай, ці ня бачылі яны твайго, – гаварыла яна да Сьцяпанавай маці, якая не змагла й слоўца вымавіць. – Прыехалі, во, тыя да Колінай... Ня стой ты, бяжы да іх, яны мо' што скажуць табе?
Маці, ня слухаючыся Чэсі, села за сталом і запытала ў Сьцяпана, ці не забыў ён купіць шмальцу (меліся быць на абед бульбяныя пляцкі).
Цела бацькі – не знайшлі, дзядзюля Колі таксама. І іншых, што былі зь імі. Маці, узяўшы з сабою Сьцяпана, аб'ехала радню ў вёсках за Супрасьляй і ў Букшталі, дзе, у хаце лесьніка, „акоўцы” напалі на Колю й яго людзей, вывезьлі іх у пушчу, а будынкі падпалілі (машыну, спэцыяльна імі разьбітую, – гаварыла тая-ж Люба, – упіхнулі яны ў Дзеразінскую бяздоніцу, што ля гасьцінца ў Ліпаў Мост).
Ехалі ў Супрасьлю – паўз Сьвятую Ваду й Сьцюдзёнку.
Кабыла, упрэлая, з натугаю цягнула воз пад гару, на якой хілеў крыж.
– Злазім з воза, бабы, – скамандаваў дзядзька. – Пяску, во, па калодкі...
– Зь нядзелі, пэўна, будуць людзі ўжо жаць, – гаварыла Люба. Палоскі жытоў набіраліся жаўцізны.
Маці, памяншэлая, ніцма ўпала пад крыжам і загаласіла: „А мой ты бедненькі, а мой ты любенькі, а што я буду рабіць безь цябе, а зь сіроцінаю тваёю на сьвеце, адна-адзінюсенькая, няшчасная?! А чаму ты пакінуў мяне, а чаму ты пайшоў на пагібель, а ці я нядобрай была табе, як і ты, сірата-сіраціна?! А чаму ўсё гора на галечу валіцца, а на галаву маю, г-ы-ы- ы-гы...”
– Перастань, ну, перастань, – супакойвала яе Люба. – Не пры дзіцяці так,

чуеш... – азіралася яна на Сьцяпана, які плакаў з самага сполаху.
– Годзі, ну, будзе таго! – круціўся дзядзька. Ён ня зводзіў вачэй зь лесу, быццам заўважыўшы там пагрозьлівае.
І, сапраўды, у паркай далечыні бахнуў стрэл.
Маці ўсадавілі цётка зь дзядзькам на фурманку й крыкліва паганялі кабылу, самі бегучы побач; Сьцяпан учапіўся за гнаяўку, ззаду, калечачы руку аб паіржавелы цьвік (рана ад яго не гаілася).
У Беласток Сьцяпан з маці даехалі аказіяй; шафёр узяў ад яе за гэта пару яек, якімі сваякі абдаравалі іх.
Потым пачаў Сьцяпан усьведамляць сабе, што маці ня траціла надзеі, чакала бацьку. Схопліваласяяна ўночы, калі нешта зашахацела ў сенях (бегалі мышы). Тэта ты? Азьвіся!” – і заходзілася яна ад нястрымнага плачу, і да сьвітаньня хадзіла па хаце, распусьціўшы валасы, што асабліва пужала Сьцяпана. У тэхнікуме, пасьля нейкага сходу клясавага гуртка ЗМП, сябар Сьцяпана, Антоні (от, забыў ён яго прозьвішча), сказаў яму, што бацька – праўдападобна – удзельнічаў у партызанскай дывэрсіі на таварным вакзале, дзе працаваў ён у акупацыю. – Ад каго ты пра гэта ведаеш, Антоні? – Ад сваёй маці, Сьцёпа, але яна нічога пэўнага ня можа сказаць. – Твой бацька таксама загінуў, Антоні? – Не, ён памёр ужо пасьля вызваленьня, ад пабояў у гэстапа. Адбілі яму там лёгкія. – Мой прапаў бяз зьвестак... Трапіў ён у засаду банды. – Яны, зволачы, многа ведалі. – Мелі – сваіх у ворганах? – А як ты думаў! І зараз усяляк бывае: клясавая барацьба завастраецца! Трэба быць піль- ным... Трэба! Будучы ў другой клясе, – так, гэта ўжо ў другім прыходзілі вэрбаваць у афіцэрскія школы, – нехта наказаў матцы Сьцяпана, што ў калодзежы зьнішчанага ў вайну хутару за Сакалдою знайшлі трупы. Маці ў чым стаяла, у тым і паехала туды. „Вучы лекцыі!” – адказала яна Сьцяпану, калі зьбіраўся ён ехаць разам зь ёю. Доўга яна не вярталася адтуль, каля трох дзён; зьявілася дома апоўначы, бшцам з пасядушак у Пячурках, прамоклая. Лягла ў пасьцель, стаіўшыся, што вучаніца, якая загулялася на позьняй клюбнай вечарыне. Напрасіла ў Сьцяпана піць. Уночы разбудзіў яго яе лямант: беспрытомна кідалася яна ў гарачцы. Сьцяпан нядотыкам апрануўшыся, пабег да Колінай, але там вісеў на дзьвярох замок.
Хварэла маці больш тыдня, у Спаса. Чэся прыносіла зельле, зь якога гатавала ёй, на пліце, адвар. (Лякарстваў з аптэкі не хацела маці прыймаць; знаёмая Чэсі паставіла банкі). – Памру я, сынок, калі ты закончыш школу, – сказала яна. Маці пачала папраўляцца. – Ажэнісься – шануй жонку...
У Сьцяпана пасыпаліся першыя горкія сьлёзы.

Быў ён ужо мужчынам.

І тады, не, пазьней, значна пазьней, цалкам нечакана падумалася яму, што ў чалавеку – шмат камэрдынара. Гэтым мучыўся Сьцяпан, яшчэ й ад таго, што, калі хавалі яго маці, уздыхнуў ён з палёгкай, амаль на людзкіх вачох. Побач Сьцяпана была Чэся, і хоць, праўда, крапацеў дождж, яна несумненна прыкмеціла жахлівую радасьць у сына нябожчыцы, але, відаць, зразумела яго па-свойму, так, як бывае гэта ў простых, шчырых кабецін, прыхільных кожнаму, каму цяжка даецца жыцьцё, ад якога вы- зваляе сьмерць. Ніколі не адчуў ён зь яе боку намёку – ці то ў злосьці, ці то ў непасрэднай гамонцы – на тую хвілю, калі, дачакаўшыся апушчэньня труны ў дол, ён досыць голасна прамовіў: „Нарэшце!" Усе плакалі. А памінкі, у саракавы дзень, – наладзіла менавіта Чэся; яна, хоць і каталічка сама, запрасіла на іх айца Максіма, лэмку з Карпатаў, жому мадзярскія карнікі пастралялі радзіну. Сьцяпан бязбожна ўпіўся на іх; па-п'янаму яму лягчэй было смуткаваць. Сапраўдны смутак адкладваў, усё адкладваў ён, паку ль закончыцца той балаган, жі выклікае сьмерць у сям'і. Прыйшла вясна, а за ёю лета, жое часткова правёў Сьцяпан у маладзёжным лягеры на пустынным беразе мазурскага возера й, яшчэ, у прысудэцкім мястэчку, памятаў ён, за Валбжыхам, дзе хэўрай купаліся хлопцы ў сьцюдзёных гліняных кар'ерах, у жіх, казалі яны, ляжыць нямецкі самалёт. Ды памяць пра маці не зьяўлялася ў ім глыбейшай, чымсьці пра настаўніка матэматыкі; ня сьнілася яна Сьцяпану. Ажно, неж пад восень, ужо ў Беластоку, будучы ў Антоняга, так, недалёка Азёрнай, пайшоў ён пагля- дзець яе магілу, і сеў там на чужой лавачцы перад надпісам на багатым мар- муры – „Магільня Нікіфарукоў", – закурыў па-важнецку й раптам застагнаў ад накоцістага плачу. Галаву нешта сьціскала Сьцяпану з такім болем, што, здавалася, разьляціцца яна аскожамі; ахапіў яе аберуч. Аглянуўся ён на ра- біну, расчырванелую ў цёплым закутку, і зь незвычайнай выразнасьцю ўбачыў маці, яе твар, маршчыны, цеплыню позірку, сутаргу вуснаў, што так і засталася пасьля галашэньня ля дарожнага крыжа. І Сьцяпан зразумеў» што яна жадала пакінуць сьвет загадзя, не зьнявечанай... І толькі тады дай- шло да яго слабеючых пачуцьцяў ды розуму, што дарастаючых дзяцей стамляе лес сваіх бацькоў, асабліва, калі бяда ў іх зь бядою. Гэта гак ад пэў- насьці ў тым, што можна жыць іначай, гладка й пагодна. Ім, дзецям, спачатку нават удаецца тое, але даволі хутка зацiскаецца й на іхнай шыі свая пятля, з гадамі ўсё мацнеючая.

* * *

Ляскатліва расчыніліся дзьверы ў пакой, і Сьцяпан, зь дзіцячай хітрасьцю, прыкінуўся сьпячым; падзьмуў скразьняк.
У пярэднім – прастуджаны голас Кіры:
– Мама, я купіла радыскі.
– А дзе ты, увечары, знайшла яе?
– Прадавалі... – расказвала яна. – Сьцяпан дома?
– Сьпіць.
– Яшчэ?! – яе крокі набліжаліся.
– Няхай ён пасьпіць, – як бы супыніла Кіру маці. – Во, паеш квашанінкі.
– Не магу, – зашахацеў на Кіры лёгкі плашч. Яна распраналася. – Хо, горача! – засхрыпела шафа з адзеньнем. – Блага мне, мама.
– Залішне бярэш сабе ў галаву...
– За сябе я не бядую, мама, – сказала Кіра, пацягнуўшы носам. – За дурною галавою і нагам няма спакою... Возьмуць і пасадзяць яго!
– Цішэй, бо пачуе...
– Няхай сабе чуе! – грукнула шкло; запсычэла „ігрушка" з адэкалёнам. – Прычоска мая, хвароба, рассыпаецца. У мяне, мама, мяккія валасы. Заўтра пайду я да Райкі: у яе – француcкі ляк...
У прыцемку, у самюткім куце бібліятэчнай паліцы, паглядвала на Сьцяпана дзяўчына на каляровай паштоўцы. Яна прыціскала да аголенага пляча букет жоўтых і чырвоных цюльпанаў; мела выразныя, чорныя вочы і просты, грэцкі нос. Ад яе красы, тыповай у пачатках стагодзьдзя, рабілася яму цёпла і ўтульна. Хацелася Сьцяпану пасьмяяцца з турботаў, ад якіх брыняла потым яго піжама й мучылі сны.
Сьцяпан запаліў сьвятло й пашукаў сабе кніжку. Але не ўкладвалася яму чытаньне. І не было-ж як пайсьці на шпацыр, праветрыцца: час ад часу чулася гаворка маці з дачкою, у кухні.
Кіра сама прыйшла да Сьцяпана.
– Што чытаеш? – запытала яна.
– Ня ведаю, Кіра.
– Трымаеш-жа кніжку ў руках!
– Зараз скажу табе... – ён адгарнуў тытульны ліст у кніж-
цы.
– Сьцяпан, – Кіра падыйшла блізка да яго, але не прыхіліла, як зазвычай, яго галаву да сваіх пругкіх грудзей. – Што ты, Сьцяпан, нарабіў?! Людзі

сьмяюцца зь цябе. Скажы: ты сапраўды спаліў аўтамабіль старшыні?
– Спаліў, Кіра.
– Навошта?
– Так трэба.
– Цябе будуць судзіць за гэта!
– Я таго й чакаю.
– Суду?
– Суду, Кіра.
– Што ты зноў задумаў?
– Зьнішчыць падлюгу.
– Значыць, каго? Старшыню?
– Ага.
– Самому трапіўшы ў суд?
– Няма іншага спосабу, Кіра.
– Зь цябе ўчыняць злачынца! Разумееш? І прысудзяць – ад- купіць машыну!..
– Хто акажацца злачынцам – пабачым. А машыну, калі трэба будзе, я адкуплю.
– За сваё?
– За сваё, Кіра.
– Ці ты, Сьцяпан, хоць памятаеш, якія ў цябе заробкі?
– Так, Кіра.
– Ты адкупіш – за іх?
– Калі трэба будзе...
Села яна ў крэсла, насупроць Сьцяпана.
– Ты ненармальны.
– Не разумееш мяне, Кіра.
– Не разумею? Як можна разумець...
Зьявілася цешча.
– Крычы, не крычы – сталася, – загаварыла яна. – Мусова цяпер думаць нам, як бяду збыць...
Сьцяпан зноў разгарнуў кніжку.
– А балячку, хіба, хто збыў? Прадаў яе? Узяў ды прадаў, га? – узлавалася Кіра.
– Ты гаворыш, як пра чужога, – не адступалася ад свайго цешча.
– А ён, калі вычаўпаў такое, падумаў пра мяне?
– Падумаў, не падумаў, але Сьцяпан – твой муж, дочка.
– Твой... Твой... Ах, мама, ідзеце вы разам са сваімі павучэньнямі... – Кіра вытузнула кніжку са Сьцяпанавых рук. – Слухай ты, булава, калі да цябе гавораць! Не адзін-жа жывеш тут!..

– А ну вас! – цешча, выціраючы далоні аб хвартух, павярнула назад.
– Ну, – Сьцяпан трымаўся.
– Ведаеш, на каго ты падобны?
– Ведаю.
– Перастань ты дурня клеіць ды йдзі да старшыні, чуеш? Прасі яго – мо' прабачыць табе, адпусьціцца...
– Прасіць гэтага лайдака – не ў маім пляне.
– Тады – што?
– Я-ж табе, Кіра, казаў...
– Не, я ўтаплюся ад гэткай размовы!
– Кіра, калі-б старшыня ўмеў думаць, дык ён сам не дапусьціў-бы да суду. Ён павінен дасканала прадчуваць тое, куды я хілю. Ня выключана, што ён ужо бегае, куды трэба... – Сьцяпан закурыў. – Але – дудкі, запозна: я быў у міліцыі!
– Што?!
– Зараз яму не выкруціцца ад сьледзтва.
– Ты прызнаўся?..
– Гэта вельмі важнае, Кіра: стварыць падставу.
– На сваю галаву?
– Дакладней – на яго.
– Вар'ят ты! Палесьцінец! – Кіра захадзіла па пакоі. – Ну, капцы ўсяму...
– Кіра! Як табе гэта вытлумачыць? – ён паклаў кніжку на паліцу. – Факт скандалу сьведчыць не ў карысьць нашага высока пастаўленага праныры. Праўда, я захуліганіў, але чаму? Якія прычыны скляліся на тое? І я раскажу пра іх на судзе. Публічна, гэта табе не на нарадзе... З маленечкага зробіцца вялікае! Прападу я, але й ён прападзе. З той розьніцай, што ён правалінца на нечым значна, беспараўнальна, большым, Кіра.
– Паважаны Сьцяпан Сумленевіч, – іранічна скрывіла яна губкі. – Па-першае, як я ўжо неаднаразова гаварыла табе, зьяўляешся ты жывым экспанатам наіўнасьці, надзвычай каштоўным сваёй рэдкасьцю ў нашу захірэлую эпоху, і таму, адразу, падлягаеш кваліфікацыі ў музэй. Па-другое, ты вінаваты ў акце тэрору ў дачыненьні да іншай асобы, што ня зможа апраўдаць ніякая, нават сусьветная, матывацыя. Па-трэцяе, гэта акампраметуе цябе, прынамсі, на пэрыяд аднаго пакаленьня кіраўнікоў грамадзкага жыцьця, у якіх прозьвішчу Сумленевіча будзе спадарожнічаць дадаты сказ: „А, гэта той дурань, які калісьці спаліў аўта, ну, таго...” Па-чацьвёртае, ашчасьлівіш ты наступнага праныру, якому, мабыць, і абрыдла чакаць нагоды заняць месца старшыні. Па-пятае, у каапэратыве нічога ня зьменіцца ад твайго рэвалюцыйнага

ўчынку. Браток, цароў стралялі, а імпэрыя ні трошкі не пахіснулася...
– Усё?
– У васноўным – усё.
– Калі-б паверыць табе, Кіра, дык дзеяньне чалавека павінна быць накіраванае безумоўна на асабістую карысьць. Не пратэстуй, бо іншай высновы са сказанага табою, звычайна, ня можа быць. Страчваньне сілаў дзеля агульнай...
– Ты ахвяроўваеш сваю будучыню й будучыню жонкі на алтар грамадзкасьці, прыгожа кажучы.
– Не бачу я ў гэтым нічога сьмешнага.
– І я. З другога боку.
– Свайго.
– Невядома, хто з нас абаіх чысьцейшы эгаіст, Сьцяпан...
– Што, Кіра, маеш на ўвазе?
– Тваё „я”.
– Ах, во яно як!
– Прытым, куды гэта падзелася Сумленевічава перамаганьне зла дабром, га? Ды, наогул, адно ты гаворыш, а другое робіш. Дзіця, выдатнік па тэорыі й двоечнік па практыцы, анархіст, вулічны, камічны ў задуманым... Жыцьцё не пажартуе з табою! Крымінальная служба падлічыць твае векапомныя зьдзяйсьненьні. Будзе рогату ў судзе, калі абвінавачаны Сумленевіч пачне растлумачваць, што ён спаліў прыватнае аўта свайго шэфа, каб выкрыць яго нядобрасумленнасьць. Заплача публіка ад падорваў! Сэнсацыйны мэтад зьнішчаньня камбінатараў: спальваньне іх маёмасьці. Стварайце брыгады сумленных падпальшчыкаў уласнасьці людзей, у адрас якіх існуюць маральныя закіды! Толькі справядлівыя сядзяць у турмах! Сьвет – зварухніся! Прачніся!..
– Выйдзі, Кіра!

## 20

На працы, здавалася, нават стары бухгальтар паказаў спагадлівасьць да Сьцяпана, не настойваючы на тэрміновае афармленьне ім разьлікаў у расходваньні каапэратыўнымі аддзеламі будаўнічых матэрыялаў, прызначаных на пабудову асабнякоў у Петрашоўскім квартале ды ў Бельску й Саколцы.
Сакратарка падала Сьцяпану справаздачу камісіі, чысьценька перапісаную. „Няўжо забыўся ён перахапіць крамолу?!” – падумаў Сьцяпан пра старшыню

й падпісаўся на ўсіх пяці экземплярах, быццам спадзеючыся, што вось-вось расчыняцца дзьверы й зьявіцца ў іх ён, каб парваць на дробненькія кавалачкі гэты нязручны яму дакумант.

Сумленевіч пазваніў членам камісіі, каб і яны падпісалі. На жаль, нікога зь іх ён не застаў на месцы: двух знаходзілася ў каманьдзіроўцы, а трэці хварэў.

„Пачнем ад хворага, які, ёсьць надзея, пра нішто яшчэ ня ведае", – Сьцяпан хутка сабраўся ў горад.

Ля пераходу цераз вуліцу, побач рэстарану „Гродна" мурашыўся людзкі натоўп. Прычэпа ад грузавіка, нахіленая, стаяла на тратуары, бокам падняўшы колы на сьцяну, бы вялізны сабака. Міліцыянты мералі. Бамбіза ў юхтавых ботах пужнуў адурэлага ад відавоку крыві ката зь віхрастай поўсьцю; хтосьці загінуў ля газону. Грузавік-жа з галавастаю шафёркаю вінавата чакаў, загарадзіўшы замурзаным сваім тулавам дарогу машынам, якія, спадцішка, сыгналілі й аб'яжджалі завалу Юравецкай. Праходжыя выцягвалі шыі, каб угледзець, як і дзе нехта крычаў аб чымсьці да кагосьці... Шайка вучняў з тлусьценькімі мордачкамі, разявіўшыся, наглядала за замяшаньнем; адзін зь іх, непаваротліва, фатаграфаваў.

– Добры дзень, Сьцяпан!

Сумленевіч пазнаў у жанчыне прыгожую сяброўку са школы. На уроках матэматыкі яна добра падказвала яму. Гарбаты настаўнік ставіў ёй за гэта двойку. „От і напалохаў ён мяне, – пасьмейвалася яна падчас перапынку. – Ня быў-бы ён мужчынам: хоць маленькую прыкрасьць, але зробіць!"

– Вітай... – Сьцяпан завагаўся над яе імем, сымпатычным (Вера?). – Бачу, расьцеш ты, як сабе! Банду хлопцаў адна ты разагрэла-б, і то на сьнезе, – іначай, чамусьці, ня мог ён гаварыць да яе. – Ну, кажы, што добрага ў цябе чуваць? Муж – пад абцасам, дзяцей – рой, каханкаў – на выбар?..

– Не зьмяніўся ты, Сьцяпан, – адказала яна. – Усё прыкідваесься разбэшчаным...

– Гэта – блага ці добра?

– Нашто пытаеш? Сам ведаеш...

– З пакорай слухаю цябе, – і яшчэ дадаў ён: – Засаромела ты мяне, старога дурня, – Сьцяпан лакомліва закурыў надломленую папяросіну, апошнюю ў пачку. – Скажы што-лень пра сябе...

– Бацька мой памёр.

– Бацька? Ад чаго?

– Рак страўніка...

– Які чорт! Калісьці людзі паміралі ад сухотаў, застуды, пабояў, а цяпер, каго не спытай, дык усё – рак, рак, рак... Прабач...

– Нэрвы.
– Так, сапраўды, я замнога дазваляю сабе...
– Кажу пра нэрвы, як пра прычыну хваробы, захворваньняў на рак. І як ні дзіўна, але ў прасмуроджаных гарадох, пракурэлых, ня так і часта пачуеш, каб хто паміраў ад рака, – яна, відаць, думала пра тое. – Горад, ведаеш, дае пачуцьцё ўласнай вартаснасьці. Важнасьці!
– Твой бацька быў зь вёскі?
– Зь вёскі. З Васількова. З гаспадаркі. Зь зямлі, якой аддаў сваё жыцьцё, але якую ня меў ужо каму пакінуць. Старому і ў галаву не прыходзіла тое, што зноў настануць часы, калі гаспадар будзе самым пагарджаным чалавекам, у супастаўленьні зь якім чысьцільнік камунальных прыбіральняў здасца панам над мужыкамі. Вытворца галоўнага – хлеба... Кантынэнт сялянства апускаецца ніжэй травы, цішэй вады...
Сьцяпан не перабіваў, агламаждджаны нагавораным ёю.
Яна ціха разьвіталася.
„Чалавек, што дрыгва: дакранесься да яго й правалісься, – Сьцяпан увайшоў у Юравецкую. – Кожнага абыходзь бокам".
Яму ня верылася, што столькі даведаўся ён ад зграбнай жанчыны.
Член камісіі, да якога йшоў Сьцяпан, жыў на Вятрачнай. У даваенным доміку, у садку, згусьцелым ад разрослых вішнякоў. Зьвяглівы сабака ў глыбіні панадворка кідаўся на ланцузе, дзеручы лапамі зямлю. Ганак, спавіты дзікім вінаградам, з каляровымі шыбкамі ствараў ўражаньне крыху казачнага ўваходу ў даўно таемнае.
Выглянула адтуль тоўстая баба.
– Ён хворы, – сказала яна Сьцяпану пра гаспадара. – Вам чаго трэба ад яго?
– Добры дзень вам, – прывітаў яе Сьцяпан. – Я толькі на хвілінку да вас. Мы працуем разам...
– Віцюлік! – крыкнула яна ў сені. – Хтосьці прыйшоў, чуй, да цябе. – і абаперлася мяккім локцем аб вушак. Па-мацярынску самаўпэўненая, стаяла яна так з кухонным нажом у руцэ.
– Што? Прывезьлі цымант, – жыва выбег на парог Віця й, звочыўшы Сьцяпана, сказаў: – А, гэта ты: здароў! Заходзь, – працягнуў Сьцяпану руку. – Заходзь, заходзь... Дай нам, маленькая, гарбаты, – зьвярнуўся ён да гэтай гаспадыні, якая аказалася яго жонкай. – Сядай, Сьцяпан, – ён паказаў яму фатэль на ножках, закончаных ільвінымі галоўкамі. – З чым добрым ты да мяне? – і сабраў ён у сабе ўсю ўвагу худога, высокага й даўганогага.
– Са службы прыходзяць у дом хіба з чым добрым, браток? Гэта-ж усё роўна

што з тэлеграмамі ў мястэчка ці ў вёску, – Сьцяпан скляў сябе: „Я, дурань, палохаю яго!” – Я, ня бойся ты, са звыклым глупствам да цябе... Ня хвораму-ж ісьці да здаровага.

– У мяне, ведаеш, Сьцяпан, балячкі на вантробе паявіліся. Бядовая справа, ведаеш, – сказаў ён для яснасьці. – Як схопіць мяне боль, дык ажно на сьцены лезу!..

Настрой быў дрэнны.

– Лечысься ты?

– Лекары, ведаеш, Сьцяпан, бы ты я адвакаты: так і паглядаюць на жменю, так і паглядаюць! – Цяпер п'ю зельле... Нямаш мне варункаў хварэць: зяць будуецца, – і, стрымана памаўчаўшы, запытаў: – А ты, Сьцяпан, не задумаў сабе – вілу?

– За што, братка?

– А цесьць у цябе ад чаго? – маршчыны на яго твары склаліся ў кашэчую ўсьмешку. – Зь ім, ведаеш, Сьцяпан, мала хто роўня ў Беластоку. Ціхенькі ён ды ўдаленькі! Ты, вазьмі, трасяні яго добра, а грошы зь яго, сам перакана-есься, пасыплюцца, бы дзічкі з грушы. Адну дачку маючы, ён можа даць...

– Ат, стары й так даволі наклапаціўся, пакуль яе, Кіру, выгадаваў, – Сьцяпана непрыемна ўразіла тая непасрэднасьць, зь якой гэты чалавек у гадох падказ-ваў яму нешта й без таго грубае.

– Дачку то ён не гадаваў, Сьцяпан. Яго дзяцьмі зьяўляюпца інтарэсы, – ужо пляткарыў ён перад Сумленевічам. – Не было такой справы, на якой твой цесьць не зарабіў. Яго, мабыць, і цяпер ты мала бачыш дома?

Сьцяпан нічога не адказаў яму.

– Ведаю я яго, бы таго каня лысага...

Баба расставіла на стале шклянкі з гарбатай, пірог на залочаным паўміску, срэбную цукарніцу, павідла ў крышталёвым начыньні, вішнёвае. Талерачкі, памаляваныя ў яскравыя ўзоры, прасьвечваліся далікатнай тонкасьцю. Каля гарбатных лыжачак ляжалі пляскатыя мініяцюры лапатак; Сьцяпан дадумаўся, што імі трэба браць порцыі пірага (ён пачакаў, каб падгледзець у гэтым гаспадара). Былі й чырванашчокія яблыкі, скрыгелікі лімонаў, і яшчэ штосьці.

– Я, во, прыйшоў да цябе са справаздачай камісіі, – Сьцяпан дастаў з партфэлю паперы. – Ужо перапісаная, – ён адставіў далей пасудзіну з павідлам, непрапарцыянальна цяжкую. – Чытай гэта й падпісвай.

– Ага, – пасмутнеў Віця. – Ага... Саладзі, ведаеш, Сьцяпан, гарбату. Калі ласка, саладзі сабе...

Пірог хатняга вырабу смакаваў адмыслова. Крохкі, ён раскошліва распускаўся ў роце, выклікаючы цягучы сьлінацёк. „Калі ён пра нішто яшчэ ня чуў – падпіша", – заключыў пра яго Сьцяпан, набіраючы павідла, якое рыхтавалі, відаць, паводле асаблівай рэцэптуры: ягады вішняў, цэлыя, аказаліся зусім сьвежымі. Былі яны хрумсткімі. (У прыгарадах і прадмесьцях гатуюць павідла няўмела, па-сялянску мазяватую гушчэчу, сцукраваную.)
– Ага... Ну, моцна напісана! – Віця працягнуў руку па акуляры, што ляжалі на этажэрцы. – Гм... Адразу пазнаць тут стыль Сумленевіча: просьба гучыць як ультыматум, – бліснуў ён кпіначкай.
– Рэвалюцыйная стылістыка, браток, – пацяплела Сьцяпану.
– Ну, а што новага чуваць у каапэратыве?
– Пахварэў ты ўсяго дзень і ўжо думаеш, што безь цябе там усё завалілася? – Сьцяпан, жэсгам бесклапоцьця, выбраў сабе яблык. – Ніхто й ня ўспомніў пра цябе. Быў. Няма.
– Так, – яму падаўжэў нос. – Ну, а як ацанілі працу камісіі?
– Камісіі? – Сьцяпан засьмяяўся. – А я думаў, што гэта яна – ацэньвае. Каму ў галаве, браг, наша камісія? Старшыня, вось, заняты старшыняваньнем, кіраўнікі кіраваньнем, бухгальтар лікамі, і гэтак далей, – знарочна падняў ён руку з гадзіньнікам. – Ого, ужо першая гадзіна! Час мне йсьці. Ну давай, братка, падпісвай справаздачу. Хопіць гэтай распусты за гарбатай.
Гаспадар абмацаў кішэні пінжака.
І Сьцяпан зразумеў, што ён ня знойдзе аўтаручку або даўгапіс.
– Пазычу табе сваю... – сказаў ён да Віці, які, як бы ў вадказ на гэта, абціх, бы той, каму ўжо ўсё роўна.
Але, як на тую бяду, Сьцяпан ня ўзяў з сабою хаця-б алоўка.
– Ведаеш, Сьцяпан, я падпішу заўтра. На працы. Ну, ведаеш, якая розьніца: сёньня ці заўтра? Я-ж, як бачыш, цалкам здаровы... З раньня, ведаеш, Сьцяпан, я пазваню табе, прыйду й падпішу. Ну, усё ў парадку, – ён ветліва праводзіў госьця да дзьвярэй. – Дзякую табе за тое, што ты наведаў мяне, і прабач мне, калі што ня так было... Ведаеш, Сьцяпан, зяць мой будуецца...
Сабака люта брахаў.
Пайшоў паркі, густы дождж.
Сьцяпан, тулячыся да платоў з навіслым гольлем дрэваў, дабраўся ўздоўж іх да Антанюкоўскай артэрыі, якраз блізка прыпынку, на якім сеў у „дзевятку" – ледзь уціснуўся ў перапоўнены аўтобус. З мокрых плашчоў пасажыраў сьцякала вада, і ад размочанай на падлозе гразі рабілася коўзка. Стаяў ён, трымаючыся за расхістаны поручань.

Выйшаў – за мастом на Белай, ніжэй „Гродна”, дзе разявы ўсё яшчэ не разыходзіліся зь месца выпадку.
Ніякавата было Сьцяпану вяртацца да сябе.
Цішыня вакол яго асобы – анямелы тэлефон, для відавоку забеганая сакратарка, выключна дробязная карэспандэнцыя, спэцыяльна дэкрэтаваная яму старшынёй, спачувальныя твары некаторых – бянтэжыла яго сваёй, усё-такі, прыдзірлівасьцю. Нейкай шаблённай вытлумачальнасьцю абясьсільвала яна Сьцяпана.
Які-ж гэта – чорт вазьмі! – аргумант: спаліць яму аўтамабіль, каб...
Ат, хуліган ён, што даробляе сабе ідэалёгію.
Напэўна, ён і з глузду зьехаў!
Калі-б Сумленевіч быў сур’ёзным, дык ня важыўся-б на такое.
Малады, то й дурны.

# 21

У калідоры чакаў Сьцяпана незнаёмец, які назваў сябе сваяком і паведаміў, што памерла цётка. Гэта было ня тое, што нечаканым яму. Прыдуманым! І Сьцяпан, усьміхнуўшыся, сказаў:
– Што-ж, памерла дык памерла... Усё чую я пра сьмерць.
– Пахаваюць яе ў пятніцу каля дзесятай гадзіны. У Каралёўшчыне. Можна даехаць туды ранішнім аўтобусам.
– Памерла, значыць, сястра маёй нябожчыцы маці?
– Ну.
„Ня ўсё, што банальнае, зьяўляецца непрыдатным”, – успомнілася Сьцяпану недзе пачутае ім. Ён слухаў незнаёмца, падтакваў яму – на яго шчацэ патрэскалася немалая бародаўка з воласам.
Гэты чалавек папрасіў Сьцяпана пазваніць па тэлефоне нейкаму сваяку ў ваяводзкай камэндатуры міліцыі.
– Добра, я пазваню, але гаварыць зь ім будзеце вы...
У сакратарыяце Сумленевіч пакінуў пісьмовую просьбу аб два вольныя ад працы дні.
Выезд на пахаваньне даў Сьцяпану супакаеньне.
Царква ў Каралёўшчыне, вельмі даўняя, стаіць ля гасьцінца ў колішні двор. Пад высокім лесам. За рэчкаю, калі йсьці да яе далінаю. Зьлева ад шашы, ад пахілых вербаў.

Ужо стаяла пад ёю зграя легкавых машынаў – паняў, паноў і панятаў. Выпендрыўшыся, хадзілі яны туды й назад – от, мужыкі каля фурманак на Сенным рынку. Каля свайго.
Цела нябожчыцы везьлі з хутара, ці то зь вёскі, і Сьцяпан, каб ня нудзіцца, не глядзець на гэтых нібы-жалобнікаў, не паддавацца іх агляду, забрыў на ўзьлесьсе, сьцежкай каля сухога долу, дзе, мусіць, капалі пясок на дарогу. З засмужанага неба крапаў нясьмелы дожджык і падымалася духотная імгла. За маладняком цямнелі яліны й прасьвечвалася паляна. З-за павароту выйшла пажылая жанчына. Яна зьдзівіла яго тым, што яму, чужому, сказала „Добры дзень". Спатыкнуўся ён аб мурашнік; незвычайныя мурашкі залазілі яму аж на кульшы. Недалёка стукаталі дзятлы й пужаў Сьцяпана шолах у маліньніку, заваленым сухападам. Гадоў пяць назад, успомнілася яму, у гэтай ваколіцы паляўнічыя падпільнавалі рыся. Тут, магчыма, ёсьць і зьмеі?! Ад дрэва да дрэва перабягалі ўзброеныя хлопцы...
Сьцяпан здранцьвеў. Ён не адчуў сябе лягчэй і пасьля таго, як зразумеў свой прывід. Далёкай кулямётнай чаргою заклекатаў бусел... Маці, пад крыжам, прадчула найгоршае... А ў Супрасьлі – шафёр: „Дасьце яек, падвязу вас з сынам у Беласток".
Калі Сьцяпан вярнуўся пад царкву – ад машыны, памаляванай у сіні колер, наблізіўся да яго ні то хлопец, ні то мужчына.
– Добры дзень пану.
Сьцяпан адказаў.
– Вы, пане, на пахаваньне?
– На пахаваньне, – адказаў Сьцяпан.
– Курыце? – той працягнуў яму пачак амэрыканскіх цыгарэтаў.
– З прыемнасьцю. Дзякую вам.
Араматызаваныя, даўкія...
– Няма, пане, пагоды.
– Так, – Сьцяпан прыглядзеўся да пашчэрбленых зубоў размоўцы. – Старыя паміраюць або ўвосень, або ўвесну.
– Цётка магла-б, пане, пачакаць да восені, – пажартаваў уласьнік сіняй машыны. – Надта-ж мноства многае работы цяпер назьбіралася ў мяне.
– Не ўдалася вам цётка...
Юнацкі мужчына раскланяўся са Сьцяпанам:
– Прабачце мне, пане.
– Кал і ласка.
На масток у нізку сунуўся абоз: на пярэдняй фурманцы – труна. Відовішча –

быццам вяртаньне з паляваньня на некалі бачанай карціне...
Жанчыны перад люстэркамі ля кузаваў легкавых машынаў папраўлялі сабе прычоскі; маццяркі клікалі дзяцей. Шматлікая радня!
– Вязуць, – нехта голасна сказаў. – Зюнік, адвядзі далей нашу машыну, каб конь ня ўгрэў па ёй капытам...
Запрацавалі маторы. Узьняўся вэрхал, тратуарны.
– Мужчыны, – прасіў, па-беларуску, дзядок. – Мужчыны, трэба вынесьці з царквы харугвы. Ну, адну – я. Хто яшчэ?
Адгукнуўся на гэта васпаваты дзядзька ў гумовых ботах. Сьвятар – зь пеўчымі бабулямі – ужо выходзіў да вуліцы; малады, прыкметна зьнясьмелены старамоднай сваёй прафэсіяй, разгублена тузаў свой залётны вусік (без барады). Так і гаварыў, здаецца, так і гаварыў ён: людкове, а нашто мне гэта? Расьпяўшы парасоны, жалобнікі бязладна рушылі за ім, насустрач сярмяжнаму картэжу. Можна сказаць – са злосыцо, хутка, хутчэй адбыць чамусьці не забытае, ж бы забабоннае, але прадпісанае... Зь бязьлітаснымі яны каркамі. Наперадзе засьпявалі: „Са сьвятымі супакой...” – старэчыя галасы абрываліся. Дайшлі – да першай пары коней, угадаваных, вычасаных, запрэжаных неяк па-вясельнаму; над імі ўзвышаўся румяны твар (бяз шапкі). Ля якогасьці, пакінутага, млына.
Вазьніца, вяла разглядаючыся па натоўпе, прасіў дапамогі ўнесьці труну ў царкву.
З наступнага воза зьлез брудны чалавечак і, быццам шукаючы ўпушчаных лейцаў, затрымаўся каля вазьніцы; з пугаю.
Дзядзька ў гумовых ботах, паставіўшы харугву пад ліпаю, брыдка вылаяўся й крыкнуў:
– Бавантур! Хадзі! Паможаш! – ён пачакаў, пакуль той зварухнецца. – Гэта сваякі? – кінуў ён праклён урачыстаму зборышчу. – Паны, ябуіхмаць! – і, як змардаваны дрывасек, што прымерваецца да таго, каб падняць таўшчэрную калоду, дзядзька скамандаваў: – Бавангур! Падчэпіш труну ад галавы, – на яго словы аблезлы дзяцюк ухапіўся за вугал скрыні. – А вы, двух, бярэцеся, во, там, – яшчэ пакіраваў ён старым і вазьніцай.
Ніхто не абурыўся на тое.
Малебен заняў больш, чым паўгадзіны. „Чаго я тут – ні шкадуючы, ні варагуючы – стаю сярод чужых? – Сьцяпан скінуў пальчаткі. – Труп цёткі – гэта апошні напамінак таго, што за маімі плячыма ёсьць папярэднікі. Маці – о як-жа смуткую я па ёй! – маўчала пра радню, стойваючы панурую гісторыю? Ня выраклася яна свайго сялянскага радаслоўя. Дык у чым-жа прычына

яе заўзятага забываньня на сваякоў? А Люба – хто яна мне? Не прыехала... Жыве? Гаспадарскія жонкі нягожа старэюць, чырванаскурыя...”
Нябожчыца спачывала з блаславёным спакоем – выцягнутая, чысьценькая, апранутая ахайна, але ў паношанае. Рукі яе, скрыжаваныя на грудзях, сухія й вузлаватыя. Гаротніцкія! Дзесьці блізка жыла яна й працавала. Ніхто, таксама, не заплакаў па ёй, калі прыбівалі цьвікамі века...
„Зусім не падобная яна да маёй маці”, – Сьцяпан, цалуючы настылую руку нябожчыцы раптам адчуў, як пацяклі яму сьлёзы, неспадзяваныя,- ня змог паўстрымацца й ад нежаданага ім стогну скаргі. Не адхінаючыся, ён выхапіў з кішэні насоўку й выцерся ёю. Аглухлы ад жалю, здумеўшыся гэтым, ён адыйшоў за ікону нябеснай жанчыны, каб сабрацца там з духам. „Што са мною, – мармытаў да сябе Сьцяпан. – Што гэта такое робіцца са мною? У мяне расхістаныя нэрвы! Трачу я розум з-за халернага старшыні! Ох, людзі, людзі... Ці я гэтак-жа галасіў і па маці? Ну, не, ну, добра... Ціха, ша, ша-а”.
– Вы! – за Сьцяпанам стаяў незнаёмец. – Патрэбны чацьвёрты... Могілкі тут-жа, у канцы вулачкі. Во, там, – паказаў ён у паднебнае акно.
– Так, так... – усьміхнуўся да яго Сьцяпан. – Я ўжо... Ну, ідзем.
Пахавальнае шэсьце валаклося цыганскай бандаю. Ехалі машыны, і пра іх найбольш у тлуме гаварылі.
– Чый ён будзе? – голасна запытаў ззаду бабскі голас.
І Сьцяпан ведаў, што гэта гавораць пра яго; мацней абхапіў ён плечы незнаёмца, які соп пад цяжарам труны. Кант дошкі балюча муляў у ключыцу.
Над самюткай галавою сьпяваў жаваранак, расслабляючы сардэчнасьцю.
– Чый? Мо’ гэта яе байструк...
– Мела яна другога?
– Хіба мала бандытаў хадзіла тады па вёсках? Прыйдзе такі ў хату, з карабінам, і давай яму, чаго толькі захоча...
– Гэ-гэ-гэ... І саланіны ўпрыдатак, – азваўся сіплы мужчына.
– О, нарабавалі яны ў людзей, а цяпер мураванкі сабе ў Беластоку ставяць, – загаварыла тая-ж баба. Нізкая? Кумпястая? З кучмастай прычоскай?
– Ціха! Яшчэ хто пачуе...
...Калі, урэшце, насыпаную магілу выраўнялі рыдлёўкамі й нехта з радні спрашаў усіх на пачастунак – Сьцяпан павярнуў у ельнік, зь якога выбраўся ён у поле, дзе стаяла ў забыцьці хацінка пад таполяй.
Дадому трапіў ён пад абед.

## 22

Каля бібліятэчкі ірдзела пячаткай позва з камісарыяту міліцыі.
– Мыйся й хадзі есьці, – сказала Сьцяпану Кіра.
„Зноў будзе пекла!" – ён старанліва вымываў бруд паміж пальцамі; на яго нагавіцах бялела колькі плямак жывіцы.
– Кіра! У нас ёсьць бэнзын? Мне трэба пачысьціць...
– А я думала, што – спаліць?
– Спаліць? – Сьцяпан не адразу сьцяміў. – Ага... Слухай, Кіра, ты мая жонка ці не мая?
– Твая. Таму ты павінен схадзіць да старшыні й папрасіць у яго прабачэньня.
– Гэта ты дадумалася да таго ці твой татка?
– Я таксама.
– Значыць, цесьць першы падумаў пра гэтае. І, мабыць, дасьць ён грошай на рамонт той старшынёвай ламаччавіны?
– Такі зяць – каштуе! Ягонае папраўляньне сьвету...
– На сродкі цесьця?
– Налівай сабе есьці. Капуста – у сінім гаршку, а бульбу падагрэеш. Кампот – у рондліку, – Кіра густоўна завязала шалік на шыі, апранулася. – Я пайшла.
– Да Ані, ці як яе зваць...
– Так, да Ані.
– Тады – шчасьлівай табе дарогі!
– Дзякую.
– А дзе маці?
– Ня ведаю.
– Чао!
Допыт у камісарыяце вызначылі Сьцяпану на пасьлязаўтра. У дзесяць.
„Маюць у міліцыі час, – ён, усё-ж, прыпаліў сабе бульбу. – Ім гэта што: яны-ж у фабрыцы злачынстваў. А я – іх заказчык, дарэчы, дробны. Але рытм работы й там, відаць, абавязвае. Сумленевіча ўжо занесьлі ў графік, на адпрацоўку. Гатовенькі выраб зь яго накіруюць у суд, у гэты склад пакараньняў... А што будзе, калі ў камісарыяце возьмуць ды забракуюць мяне? Не, яны не адкінуць майго! Мая, Сумленевіча, у гэтым галава: за ўдарам удар..." – гарачая капуста апякла яму вусны.
Праглядзеў Сьцяпан – каторы раз! – справаздачу камісіі. Вось дакумант, які спатрэбіцца яму! На жаль, мала аднаго подпісу пад ім, Сумленевіча. Што й казаць: яго здурыў той член камісіі. Сьцяпан змарнаваў аказію – трэба было

тады зьбегаць у кіёск і купіць яму даўгапіс, не адступіцца ад Віці, не адкладваць важную фармальнасьць. Памылка!

Ня ўсё страчанае?

Сьцяпан, паабедаўшы, наведаўся ў кватэру іншага члена камісіі; яго дачка, дзяўчынка, адказала яму, што маці пайшла ў краму, а бацькі, ад учора, няма дома. Запрапанавала яна Сьцяпану пасядзець, выпіць гарбаты... Расьсьмешаны яе кемнасыдо, ён падзякаваў ёй і хацеў даць малой падарунак (нічога, аднак, адпаведнага ня вышукаў у сваіх кішанях).

Адрасу трэцяга члена камісіі Сьцяпан ня ведаў.

„Пасьля суду я звольшося з працы ў каапэратыве, – вырашыў Сьцяпан. – Стануць, вядома, упрошваць мяне; пане Сумленевіч і пане Сумленевіч! Я, скажу ім, зноўку прыдатны вам? А дзе вы былі, калі мне было цяжка, га? Калі пахла турмою? Не спадзяваўся я па вас такой палахлівасьці; ня ціхіх спачуваньняў, але публічнай падтрымкі... А вы што зрабілі? Чакалі, хто – каго? Эт, нічога з такімі, як вы, нельга дабіцца, не жывяце вы, а ўсё рыхтуецеся жыць! На гэтым прамарнуеце свае гады. Задумайцеся вы над тым, што я гавару вам, і пабойцеся – кожны самога сябе! Усё больш людзей, усё менш людзкасьці...”

Мучыла яго смага, пульсавала ў скронях кроў і балелі яму валасы, усё роўна што пасьля п’янкі. Сьцяпан убачыў кіёск зь півам, замкнёны. Каля яго, быццам спарахнелы вулей, трывала пустая бочка. Дзеці гулялі там у хованкі. Спыніўся перад піўнушкай пажылы чыгуначнк, на ровары, пастаяў, раскірачыўшыся, пачухаўся пад шапкай і разьлезла паехаў далей, нясьпешна абмінаючы каўдобіны.

У бары „Пад селядцом” прадавалі мінэральную ваду „Крынка”.

Сьцяпан папрасіў дзьве бутэлькі мінэралкі. Барманка курыла й, адначасова, накладвала ў місачкі гатаваную па-брэтонску фасолю, якой закусвалі падпітыя тыпы ў камбінэзонах; пра штосьці спрачаліся яны паміж сабою. Двух зь іх счапілася біцца; перакулілі крэсла з жалезных прутоў, пакаціліся на падлогу. Іх сябры, пасьмяяўшыся, узяліся разбараняць – ня ў жарты палілася кроў. Убег з вуліцы міліцыянт і, вытузнуўшы, быццам сьмешную шаблю, гумовую палку, гакнуў ёю па выпучаным азадку якраз таго з буяноў, які, абліты юшкаю з носа, харкацеў, прыціснуты да зямлі здаравейшым. – Халерны Піндаль штодзень так, – сказала барманка й зірнула на Сумленевіча, як на таго навічка, якому наіўна захацелася мець сабе жонку.

Сьцяпан расплаціўся.

Круціла яму ў калене. (Нядобра ступіў ён нагою, калі ўносілі труну на могілкі;

у пухкую нару крата, і цэлы ўспацеў ад страху, каб не паваліцца...)
Сеў Сьцяпан на змуршэлы падмурак, парослы зельлем, і асьцярожна naцiраў балючае месца. Вывіх не адразу адлягае, трэба мачыць у гарачай вадзе й расьцягваць вузлы... „Шкада, што па хаце, у якой я нарадзіўся й рос, не засталося й сьледу. Заначаваў-бы я ў ёй, памыў-бы падлогу, дзьверы. Жылося-б мне па-свойму...”
Чым больш раздумваў Сьцяпан над тым, як паводзіць сябе ў міліцыі, тым выразьней адчуваў у сабе ўоо несур’ ёзнасьць створанага ім становішча. Справа ня ў веры ў справядлівасьць задуманага, бо яна ў ім заставалася непахіснутай, але ў сродках ажыцьцяўленьня намеранага. Дакладней кажучы, у іх недастатковасьці, каб не сказаць, у дробязнасьці ўчыненага ў параўнаньні з жаданым зьдзяйсьненьнем. Вымовы, якіх наслухаўся ад Кіры й ад цесьця, прыводзілі яго да дапушчэньня, што ён сапраўды рызыкуе асьмяшэньнем сваёй асобы! Давёўшы сябе да крайняй раздражненасьці, Сумленевіч зь неспакоем думаў ня столькі пра допыт, колькі пра ягоныя наступствы.
Быццам разумеючы думкі мужа, Кіра пакуль нічым, зьвязаным са справай, не цікавілася. Між ёй і маці дайшло, праўда, да сьцішанай сваркі, значэньне якой усьвядоміў Сьцяпан пазьней. Пачаткова толькі здагадваўся ён, што дачка супыняе маці ў яе сувязях з мужчынам, якія абняслаўляюць дом. Менавіта, заходзіў да цешчы нейкі прыяцель сям’і, не першай маладосьці й несумненны ўдавец. Сьцяпана зьдзіўляла тое, як гэты чалавек можа не адчуваць уласнай няёмкасьці. Ад госьця павейвала пахамі дарагіх адэкалёнаў, а яго сівюткія валасы, беззаганна падстрыжаныя, прыдавалі яму незаслужана шаноўнай павагі. Пілі яны гарбату зь ім, як бы цярпліва чакаючы прыходу дадому гаспадара; Сьцяпан часамі адгаворваўся ад гэтага вечараваньня неадкладнымі заняткамі, тэрміновымі заданьнямі на службе, незакончанай справаздачай або дакладам. Кіра сядзела зь імі дзеля прыстойнасьці? Расказвалі яны сабе анэкдоты, раскошна рагаталі, нават сьпявалі нешта расьцяглае, рускае: „Оля любила реку...” Або, фальшыва інтануючы адноўленую модай песьню „Очи чёрные...” (Аднойчы прынёс той пласьцінку са сьпевамі Шаляпіна, даваенную, зьдзёртую.) Сталася ўжо хатнім звычаем, што ў панядзелкі гэты прыяцель дому стукаўся ў дзьверы пунктуальна а шостай. Яго вітаньні абрыдлі Сьцяпану. – Добры вечар пані. – Добры вечар пану. – Як прамінуў вам дзень? – Дзякую, добра. – Сёньня нешта папсавалася пагода. – Сапраўды, ад самай раніцы дождж! – А які пранізьлівы вецер! – Даўней вёсны былі цяплейшымі. – Зьмяняецца клімат. – Распранайцеся, калі ласка. Будзем

піць гарбату з ромам. – Каханыя вы мае ўсе...
Цешча была хітрай, але й спагадлівай кабетай (дачка, усё-ж, удалася ў бацьку). Яна не пахваляла зяця. Аднак-жа, калі й спрабоўвала навязаць яму сваё, дык праводзіла гэта без сьвятой упэўненасьці, якую наглядалася якраз у Кіры, яшчэ замаладой на тое, каб што-кольвек прадумаць дарэшты. З ваганьнем. Было-б, аднак, памылкай дапускаць, што старая ня мела сваіх меркаваньняў. Хутчэй за ўсё, яна не імкнулася да іх, існавала трохі па-расьліннаму. Ніколі цешча – як памятае Сьцяпан – не папракаля цесьця ў яго вяртаньнях поначы, не дапытвала яго, дзе быў і што рабіў, не ачарняла бабскімі падазрэньнямі, абвінавачаньнямі: „Мела я лепшага ад цябе, але, дурная, не пайшла за яго й таму цяпер пакутую!" У начной кашулі, стоячы, старая тлумачыла яму, якое ежыва і ў чым яно (капуста – у сінім гаршку; бульба – у гаршчэчку, вынесеным для прахалоды ў сенцы; кампот – у рондліку).
Цесьць аднойчы, даволі п'яны, учыніў ёй дзікую авантуру; няголасна й настойліва. Насіў ён тое ў сабе, відаць, здаўна. – Чаго ты плюскаеш на мяне вачыма, бы сына нарадзіўшы? Пакажы мне, дзе ён? Ня маеш яго, ага. А я гаварыў табе: трэба нам хлопца! Дачка добрая ўпрыдатак, як ніштаватае курвяня, але яна – што нам дасьць? Пабяжыць у сьвет, задраўшы хвост! Але ты – не й не, няхай падрасьце дачушка, зь пялёнак выйдзе, тады й рызыкнем мы... Потым ты – спрытна! – давай хварэць. О як-жа любіш ты нажываць сабе хваробы!.. Ну, згода, ты не магла: ні то высокі крывяны ціск паявіўся ў цябе, ні то ныркі пачалі рэзаць цябе, ні то сэрца табе паслабела... Усё перашкоды былі й перашкоды: як не дрыстачка, дык балячка! Жывот табе разросься, як торба, як гарбуз; хадзіла, бы блудная авечка: то ў плот, то ў вароты... А так, па праўдзе, дык не хацелася табе зноў паднатужыцца. Баялася ты болю, скажу, во, табе ў вочы! Вядомая справа: дзяцей радзіць – ня грошы лічыць. Ды й гадочкі не аглядаліся на тое, калі гэта вяльможная пані мая надумаецца другое дзіця мець: пабеглі, паімчалі яны, і столькі па іх засталося, што пылу на дарозе. Ну, скажы, і як гэта з намі будзе далей? Цяпер ужо нічога не павернеш назад... Ня верыла ты, што ў нас быў-бы сын. А быў-бы ён! У майго бацькі дочкі сыпаліся, але, дзякаваць Богу, і сыны таксама. І ў дзеда... Ты, аднак-жа, не была-б сабою, калі-б не зашанавалася, каб, крый Божа ад нячыстай сілы, не ахваціцца, не пабрыдчэць, ня выклікаць радасьці ў суседак сваёй распоўзлай фігурай і ня страціць чароўнага позірку на сябе ў мужчынаў. А з сынам – не бяда, купім... Гатовага, не? Абы толькі дочанька не знаравілася на публіч -ную дзеўку...
Ён не сьціхаў.

Яна выслухала ягоныя жалі. Цесьць стаміўся гэтым, лёг і нечувана захроп.
Яе паводзіны дасьведчанай жанчыны Сьцяпан даcаніў нядаўна. З бліжэй не названымі заўвагамі. „Ці яе Кіра здольная кахаць мяне, наогул мужчыну? Страх мець зь ёю дзіця! – неспакоіўся Сьцяпан. – Выйшла яна за мяне, магчыма, зь дзяўчынскай патрэбы жыць пры кімсьці... Гэта ня вельмі й рэдкі стымул быць замужняй; па грамадзкай інэртнасьці. Ёсьць у жанчыны этапы захапленьня мужчынам. Цалкам іншымі запатрабаваньнямі выкліканае яно ў маладосьці, у пэрыяд непаўнацэннасьці, жаданьня стацца самастойнай. Сьпелы-ж узрост высоўвае на першы плян матэрыяльную значнасьць прэтэндэнта на мужа, ініцыяваньне ім дабрабыту, што эмацыянальны бок жыцьця зводзіць да аздобы. Шлюбныя здрады маюць адпачынкавы характар. Жонка, якая перайшла жыць да каханка, не зьяўляецца курвай". Сьцяпан не лічыў за лепшае забывацца на непазьбежны допыт у міліцыі. Прымушала яго да гэтага заганная асаблівасьць ягонага хара- ктару, няўмельства перастраўляць ім, перамешваць, галоўнае з надзённым, дачасным. (Калі верыць пагалоскам, дык старшыня, як правіла, выпрацоўваў сабе варыянты рэагаваньня, не дапускаў ён да самацёку – жартавалі ў каапэратыве – нават у гутарцы з прыбіральніцай; зласьліўцы дадавалі да таго, што й крывіўся ён на нарадах таксама згодна з дакладным сцэнарыем.)
У камісарыяце сяржант прывітаў Сумленевіча з рухавай заклапочанасьцю.
– Сядайце, калі ласка. Я зараз, – і ён пазваніў кудысьці. – Гэта я. Няхай зойдзе ён да мяне заўтра а адзінаццатай. Так. – Тады зьвярнуўся да Сьцяпана:
– Пакажэце, калі ласка, свой пашпарт.
Сумленевіч падаў яму дакумант.
Міліцыянт дастаў з бакавой шуфляды пісьмовага стала прасторны фармуляр і прыняўся запаўняць яго.
Папярэдзіў ён Сьцяпана аб судовай адказнасьці за несапраўдныя паказаньні падчас допыту.
– У тым, што я вам скажу, можаце не сумнявацца, – адказаў яму на тое Сьцяпан. Сяржант штосьці дапісаў у фармуляры й загаварыў:
– Усё, што вы скажаце тут, можа быць скарыстанае супроць вас.
– Я не баюся таго.
Сяржант не зрэагаваў на гэта.
– Дзякую, – пашпарт аддаваў ён Сьцяпану двума пальцамі, па-курэцку. – Супроць вас ёсьць падазрэньне, грамадзянін Сумленевіч, што вы падпалілі легкавую машыну старшыні... – сяржант вымавіў поўную назву каапэратыву, марку машыны, яе рэгістрацыйны нумар, дзень і гадзіну здарэньня. – Што вы,

грамадзянін, хочаце сказаць у сувязі з тым? Калі ласка, – даўгапіс грымаў ён напагатове.
– Я вас, пане сяржант, не разумею. Пра якое гэта падазрэньне ў дачыненьні да мяне вы гаворыце? Я-ж сам, як памятаеце, прыйшоў да вас і ўсё расказаў вам, прасіў...
– Так, – перабіў яго міліцыянт. – Атрымана намі скаргу на вас, – вытлумачыў ён. – Калі ласка, адказвайце на пастаўленае вам пытаньне.
– Зрэшты, мне ўсё роўна. Добра, – Сьцяпан выняў з кішэні пачак папяросаў. – Дазвольце закурыць...
– Курэце.
– Дзякую, – і запрапанаваў міліцыянту папяросу: – Курыце?
– Дзякую вам. Я прызвычаіўся да „спортаў”, – ён пашукаў запалкаў.
Закурылі.
– Было гэта так... – Сумленевіч апавядаў сяржанту здарэньне з падрабязнасьцямі. – Я ведаў, што дапускаюся глупства, але мус было нешта счаўпсьці звалаце, сукінсыну!..
– Грамадзянін Сумленевіч! Вы забываецеся! Нікога нельга беспадстаўна абражаць. Разумееце?
– Вы бароніце старшыню?
– Калі хочаце ведаць – я шаную вас. У супраціўным выпадку ў мяне была-б іншая гаворка з вамі.
Сяржант прагледзеў запісанае ў пратаколе.
– Пагаворым мы пра матывы?
– Пагаворым. Калі ласка, грамадзянін Сумленевіч.
– Дзякую вам, пане сяржант. Агу льна кажучы, старшыня зьяўляецца прыкладным узорам гангстэрскага спосабу кіраваньня ўстановай. Падбірае ён сабе супрацоўнікаў бязвольных, але таленавітых, сьлепа адданых яму. Наравістых старшыня або запалохвае, або ўсяляк захаборвае, або, звычайна, пры нагодзе выкідае іх з працы. Не ганьбуе ён і даносчыкамі, ясная справа, ды правакатарамі...
– Канкрэтней, грамадзянін.
– Гавару я, хіба, няясна?
– Вы, дарагі пане, задумалі чытаць мне тут даклад? – зьнецярпліваўся міліцыянт. – Я пытаю вас, здаецца, выразна: якія ёсьць прычыны гэтага вашага ўчынку? Ну, чаму вы падпалілі машыну?..
– Менавіта, таму!
– Дакладней?

– Ці вас, пане сяржант, задаволіць тое, калі я скажу вам, што гэты падпал зьявіўся маім актам пратэсту супроць становішча, створанага ў каапэратыве старшынёй?
– Вы, грамадзянін, зноў сваё! – ён закурыў наступную папяросу. – Высокае слова – пратэст. Дзеля яго існуюць прыстойныя магчымасьці дзеяньня, напрыклад, пэрыядычныя нарады, сходы прафсаюзнай арганізацыі, камісіі, і гэтак далей. Нязгода з чымсьці зусім не абазначае, выбачайце мне за слова, хуліганства!
– Паўтараю: я не знайшоў іншага спосабу на тое, каб зьвярнуць увагу грамадзкай думкі – на пачынаньні старшыні!
– Перастаньце вы дурыць мне галаву вялікай палітыкай у паспалітым злачынстве! Пакіньце выкручвацца, захавайце вы годнасьць, пане Сумленевіч. Час, каб мы ўжо разумелі адзін аднаго.
– Во-во, сьвятыя словы!
– Ну!
– Мы ўсё сабе сказалі.
Сяржант пабялеў ад гневу.
– Вы адмаўляецеся даць паказаньні?
– Наадварот: я дамагаўся даць іх вам, – Сьцяпан выцер лоб. – Ці я пярэчу ў тым, што мой падпал легкавой машыны, прыватнай уласнасьці, фактычна зьяўляецца ліхадзействам?
– Што вас, грамадзянін, штурхнула на такі крок?
Сумленевіч расьсьмяяўся.
– Мая жонка здрадзіла мне зь ім, старшынёй. Мала таго – я пазайздросьціў яму дарагога набытку ў выглядзе прыгожай легкавой машыны.
Сяржант ажыўлена запісваў...
– Мне нельга ратаваць сябе, – дадаў Сьцяпан, усур’ёз.
– Любоўная зайздрасьць, як прычына злачынства, часткова абязьвініць вас, пане Сумленевіч, – заявіў яму сяржант і ўвесь палагаднеў. – Беспатрэбна абдурвалі вы мяне. Я ня ваш вораг. За столькі гадоў работы, ня хвалячыся, адчуваю я скураю, хто сядзіць перада мною. Ведаеце, гэта вопыт. У нашай прафэсіі інтуіцыя адыгрывае надзвычайную ролю. Я не хацеў з вамі бавіцца ў падыходы, пытаў адкрыта, як шчыры шчырага.
„Адыходжу я, як дзень. Будзь ты добры людзям. Усе яны – бедныя”, – паўгаласам прамовіў Сьцяпан.
– Што?
– Дробязь, пане сяржант. Гэта словы маці... жаночыя.

– Ага...
– Вы, пане сяржант, залішне наракаеце на мяне. Давайце, падпішу вам пратакол.
– Нельга нікога прымушаць выявіць сваю віну шляхам самаабвінавачаньня. Яе трэба, звычайна, даказаць, – павучаў ён Сьцяпана. – Гэта прынцып, дзякуючы якому магчыма аб'ектыўна сьцьвярджаць факты.
– Не было маім намерам затойваць віну.
– А вы, скажэце, не падумалі аб тым, што, зьнішчаючы сябе, зьнішчаеце й справу, у імя якой, калі верыць вам, інсцэнізавалі гэтае відовішча? Акампраметоўваецеся, пане Сумленевіч, – ён давяраў Сьцяпану ў вадным: – Калі магу вам раіць, дык тое, каб вы паклапаціліся прадставіць доказы жончынай здрады. Мы, як міліцыя, гэтым не займаемся – замнога было-б работы... Ну, падпісвайце вы сваю аферу, – сяржант падсунуў Сьцяпану пратакол, складзены дбайным почыркам. – Ах, пане Сумленевіч, пане Сумленевіч...
Сьцяпан дакладна ўчытваўся ў кожны радок пратаколу.
– Дасьце мне копію яго?
– Вы ня ведаеце, што ў нас не бывае копій?
– Будзеце дапытваць сьведкаў?
– Адкажу вам: будзем. Што яшчэ вы хочаце ведаць ад мяне?
– Ці магу я сустрэцца з капітанам?
– Дзеля чаго вам гэта патрэбна?
– Дзеля дадатковых паказаньцяў...
– Можаце зрабіць гэта ў мяне. Слухаю вас.
– Я, таксама, і па іншай справе хачу пабачыцца з каштанам.
– Па якой?
– Даўняй, пане сяржант. Вас я буду хваліць...
– Самі зьвяжэцеся вы з капітанам. Па тэлефоне, – ён прадыктаваў Сьцяпану нумар. – Дамовіцеся, пагаворыце... Да пабачэньня, пане Сумленевіч.
– Яшчэ выклічаце мяне?
– Калі спатрэбіцца...
– Да пабачэньня.
Клямка вылазіла зь дзьвярэй і Сьцяпан павярнуўся да сяржанта, каб сказаць яму пра гэта. Але ён, ужо грабучыся ў папках, не глядзеў на Сьцяпана й, відаць, думаў пра штосьці чарговае (у яго пачыналася лысіна, ад патыліцы). Адтапыраныя вушы прасьвечвала яму сонца, быццам натлушчаную паперу. Камарынай хмурынкай віраваў пыл, ад сярэдзіны пакоя ў куты, за жалезную шафу й недагледжаны фікус, пакірачаны, як змарожанае дрэва.

У няветраным калідоры сьмярдзела мышамі.
У дзяжурнага камэндатуры даведаўся Сьцяпан, што капітан зьявіцца каля першай гадзіны.
– Вас выклікалі?
– Не.
Сьцяпан выйшаў на вуліцу (набліжалася дванаццатая). „Пабуду на сьвежым паветры, – пастанавіў ён, кіруючыся ў сквэрык. – Падрыхтуюся да размовы. Абавязкова! Мне нельга давярацца яснасьці думкі... Даволі іншага разуменьня яе, каб – заблудзіць, трапіць у блытаніну. Значыць, – Сьцяпану пацела над левым вухам, – перш за ўсё я давяду яму да ведама...”
Капітан затрымаўся ў горадзе.
Сьцяпан, апынуўшыся ў сквэрыку, сам зьдзівіўся тым, чаму гэта толькі цяпер скеміў ён, што яму няма з чым ісьці да капітана?! „Вызваліўся я ад лёгікі сну? Прачнуўся – са стану перавагі жаданьня над разважлівасьцю?..”
На клюмбах цьвілі кветкі. Іх матыльковыя колеры казачна адрозьніваліся на фоне густой зелені аздобнага тут кустоўя. Гэтую выспу жывой прыгажосьці прыкра расьцінала асфальтаваная сьцежка, на якой сохлі растаптаныя чарвякі, быццам дробненькае сухападзьдзе. Сьцяпан сеў на кульгавую лаву паркавага фасону, у цяньку. Адсюль убачыў ён, як да ўваходу ў будынак камэндатуры сьпяшаўся капітан, з сумкай, бы забіты работай бухгальтар. „І я хацеў да яго йсьці, займаць яму час гутаркай пра старшыню, які, з сыфілісам, увосень ляжаў у шпіталі? – думаў Сьцяпан. – Тлумачыць: дапусьціўся я крымінальнага ўчынку – знарочна, дзеля магчымасьці аскандаліць праныру, якому ўсялякае ўдаецца, бадай, таму, што ягоная дзейнасьць адпавядае калектыву, бо ўсяго жменька, толькі жменька, працаўнікоў каапэратыву заўважае ў паводзінах старшыні цванага госьця. Ды, хіба, кіраўнік установы павінен быць даверлівай разявою? Якім правам наважваюся я павучаць іншых? Таму што яны паддаюцца ашуканскаму аўтарытэту? Леваму! – уявіўся яму самазадаволены старшыня. – Капітан папрасіў-бы ў мяне прабачэньня за тое, што няма ў яго свабаднейшай хвіліны, каб выслухаць... Гэта было-б далікатнай адмовай, просьбай ня ўцягваць яго ў блазноту – Сьцяпан вышукоўваў вострае ў свой адрас, каб вывесьці рацыі ў сваю абарону; схіляўся ён да таго, што суд адбудзецца, усё-такі, над ім. – Я не лічу важным тое, што будуць гаварыць пра мяне. Людзі, так ці інакш, стануць задумоўвацца, смакаваць мае матывацыі, браць на зуб аргуманты, сумнявацца. Сутнасьць роздумаў – у сумненьнях? – ён устаў і прайшоўся. – У маім характары адсутнічаюць правадырскія рысы. Відавочнае тое ад дзяцінства. Я не спрабоўваю кімсьці кіраваць,

у мяне няма інстынкту панаваньня, гвалтоўнай барацьбы з асяродзьдзем за свой пункт гледжаньня. Гэта ў мяне ад бацькоў, ад маці, ад яе сялянскай звычкі падпарадкоўвацца камусьці, пагаджацца. Ах, зь якой асалодай перажываў-бы я, няхай сабе й грубіянскую, задаволенасьць мною шэфа! Знаходзіўся-б я ў пастаяннай гатоўлівасьці для кажнюткага яго загаду, калі-б мог мець тую ўпэўненасьць, што зьвязаўся з сумленным чалавекам. З гэткім, які не пасаромеўся-б сьлёзаў, каб аплакаць імі свае памылкі. Не была-б мне страшнай з такім чалавекам нават подласьць; хапала-б высакароднасьці яго мэты. Хто ведае, ці не пакінуў-бы я Кіру дзеля вышэйшай рацыі, хоць і не маёй... Я – страшэнны! Я – народжаны янычар, казённая адзінка. Мой бунт супроць кіраўніцтва зьяўляецца вынікам таго, што яно адкінула жаданыя мною яму паслугі? Нясьпелы я? Не дарос да сытуацыі? Эт, прыстасоўваюся да вымогаў суду... Сьцяпан сеў на кукішкі перад кустом зь бела-ружовым квецьцем і зь дзіцячай сур'ёзнасьцю вывучаў формы пялёстак. – Высокі суд! Я ведаю й разумею тое, што дапусьціўся дрэннага ўчынку, прычыніў шкоду прыватнай уласнасьці грамадзяніна старшыні. Сам я прызнаўся ў тым перш, чымсьці пакрыўджаны пасьпеў скласьці скаргу супроць мяне. Чаму я так зрабіў? У чым сутнасьць таго, што зусім сьвядома вырашыў я стаць перад судом? – Сьцяпан дайшоў да канца сьцежкі, да берагу вуліцы, па якой імчалі машыны. – Адкажу я на тое коратка: мой абвінаваўца мае на сваім сумленьні столькі благога, што маё пачуцьцё справядлівасьці патрабавала ад мяне хоць невялікай адпомсты яму. Не, не па асабістых меркаваньнях; іх у мяне не было. Дзейнічаў я як абражаны член грамадзкасьці, якую ганебна ўводзяць у зман і ад імя якой праводзіцца глум над ёю-ж! Старшыня давераны яму каапэратыў пераўтварае ў спадчынны фальварак! Грамадзкую маёмасьць мае ён за нішто. Купленыя каапэратывам – за мяжой – машыны бескарысна іржавеюць у Бацікаўскай базе або, у лепшым выпадку, бяруць іх сабе розныя безадказныя асобы, бы армейскае дабро, пакінутае адступаючым бокам у нечуванай вайне; зладзеі раскрадаюць наш цымант, цэглу, абагравальнікі, электрычную інсталяцыю. Вывозяць яны тое масава, грузавікамі і ўдзень! Камбінатарства сталася ў нас маральнай нормай. Душыць мяне неспакой. Магчыма, галаслоўны я й забаўны маньяк? Сяржант пазяхаў, слухаючы маё паказаньне... Дзесьці, мабыць, знаходзіцца цалкам відавочная памылка ў маёй задуме, можа, ня столькі памылка, колькі, звычайна, ідыятызм, варты ўсяго пашаны, бясьпечны асяродзьдзю сваёй прасталінейнасьцю. Гм, трэба мне мець на ўвазе тактыку, абарону. Кіру ўмешваць у гэтую справу ніяк нельга. Да чаго дайшло!.. Падпал мною легкавой машыны як дзеяньне ў стане афэкту, несумненна,

паменшыла-б маю кару й, адначасова, не перакрэсьліла-б значэньня сказанага – наконт старшыні – падчас судовага разбору. Не перакрэсьліла-б? Гэта-ж, усё-такі, былі-б апраўданьні абвінавачанага! Суд успрыняў-бы іх як праяву круцельства? Не пашкодзіць памятаць мне пра гэта. Самым надзейным варыянтам маіх судовых паказаньняў застанецца, гм, аспэкт афэктацыі? Ну, але якія падставы для таго? Старшыня намаўляў мяне шпіёніць! Не, гэта ня тое... Што ты ні даказвай, усё акажацца ня тым. Забіўся я, халера, у сабачы кут! – Сьцяпан ступіў на тратуар. – Хоць бяры ты й прасі паратунку ў цесьця, – ён, незнарок, сутыкнуўся з хлопцам, доўгавалосым; узаемна пакланіліся яны сабе ў знак прабачэньня. – Студэнт, які краў на навуку... Чуў я пра такога. Схапіў ён тры з паловай тысячы. Шчасьлівы, ён забыўся запрасіць у рэстаран на чарку кагосьці, каму павінен быў быць удзячным за грошы. Выпала яму з памяці? Потым угаворваў ён сябе, што лішне клапаціўся: той, можа, ня піў гарэлкі або не пажадаў-бы зьявіцца зь ім у публічным месцы? Няпраўда! Студэнт пашкадаваў выдаткаў, міжвольна пашкадаваў, безнамерана. Так, усё-ж апамятаўся й паслаў таму дабрадзею ліст зь перапросінамі, які й загубіў іх абодвух. Хтосьці прачытаў яго, данёс куды трэба, нашумеў. Студэнт пракраўся. Чаму якраз студэнт? Чаму, скажам , ня лекар або ўраднік? Паверыў я ў апавяданьне пра студэнта, як прадчуваньню памылкі? Як намёку на яе. У чым?..” – на выгляд несур’ёзная дылема хвалявала Сьцяпана.





# Асобы Альманаху

*Павел* Смаленскі (Польшча)

Рэпарцёр, публіст, з 1989 года журналіст штодзёнкі «Gazeta Wyborcza», раней супрацоўнічаў з падпольнымі выдавецтвамі. Аўтар кніг: «Pokolenie kryzysu» (Instytut Literacki w Paryżu), «Lustro demokracji» (Noir sur Blanc), «Salon patriotów» (Rytm), «Pochówek dla rezuna» (Czarne), «Irak. Piekło w raju» (Świat Książki, Czarne), «Izrael już nie frunie» (Czarne), «Bedzies wisioł za cosik. Godki podhalańskie» (Znak), «Balagan. Alfabet izraelski» (Agora). Публікаваў рэпартажы ў парыжскім выданні «Kultura». Лаўрэат Узнагароды польска-ўкраінскага прымірэння ў 2003 годзе за кнігу «Pochówek dla rezuna» і Узнагароды імя Курта Шэлера за тэксты пра Ірак. У 2006 годзе атрымаў узнагароду імя Бэаты Паўляк за зборнік рэпартажаў «Izrael już nie frunie».

*Славамір* Ратайскі (Польшча)

Польскі мастак, дыпламат, палітык, прафесар і выкладчык Акадэміі мастацтваў у Варшаве, якую закончыў у 1979 годзе. Да 2009 года кіраваў майстэрняй Жывапісу і рысунка на Аддзяленні графікі Акадэміі мастацтваў у Варшаве. Цяпер вядзе Інтэрмедыяльнай майстэрняй творчых артыстычных канцэпцый ды кіруе Агульнамастацкай кафедрай на Аддзяленні медыямастацтва і сцэнаграфіі Акадэміі мастацтваў у Варшаве. Удзельнічаў у незалежным артыстычным жыцці ў час ваеннага становішча. У 1990-1995-х гадах

сузаснавальнік, удзельнік і камісар з польскага боку многіх міжнародных сустрэч мастакоў з Польшчы, Іспаніі, Нямеччыны і Грэцыі, арганізаваных у Польшчы, Іспаніі і Нямеччыне. Удзельнік важных выстаў 1980-ых, між іншым: «Polska pieta», Познань-Кракаў (1986), Biennale Młodych «Droga i Prawda», Вроцлаў (1986), «Droga Krzyża», Музей варшаўскай архідыяцэзіі, (1987). Лаўрэат бронзавага медаля на І Міжнарожным біенале мастацтва Азія-Еўропа ў Анкары ў 1996 годзе.

*Лявон* Тарасэвіч (Польшча)

Вядомы ў Польшчы і свеце мастак, прафесар Акадэміі мастацтваў у Варшаве, шматгадовы дзеяч беларускай нацыянальнай меншасці, суарганізатар першых выпускаў фестывалю «Басовішча». Супрацоўнічае з варшаўскай Галерэяй Foksal, познанскай Галерэяй Ego ды люблінскай Галерэяй Biała. У 2008 годзе стаў амбасадарам Еўрапейскага года міжкультурнага дыялогу. У 2005 годзе міністр культуры Польшчы адзначыў яго сярэбраным медалём Заслужаны для культуры Gloria Artis. У 2011 годзе адзначаны Кавалерскім крыжом Ордэну адраджэння Польшчы. Атрымаў таксама: Пашпарт тыднёвіка Polityka (2000), Узнагароду імя Яна Цыбіса (2000) ды ўзнагароду Фонду Зофіі і Ежы Навасельскіх. У 2007 годзе атрымаў Вялікую ўзнагароду Фонду культуры за 2006 год, за паслядоўныя выклікі так традыцыйнаму ўспрыманню жывапісу, як і ўсялякім канвенцыям інтэрпрэтацыі мастацтва.

*Лявон* Вольскі (Беларусь)

Рок-музыка, вакаліст і гітарыст гуртоў Мроя, N.R.M., Крамбамбуля, Zet. Супольна з іншымі беларускімі музыкамі прымаў удзел у шматлікіх супольных праектах, такіх як «Песнярок» – альбом у гонар першага беларускага рок-гурта, рок-опера «Народны альбом» ды дыск беларукіх патрыятычных песень «Я нарадзіўся тут». У яго дыскагафіі: «Народны альбом» (1997), «Святы вечар» (1999), «Я нарадзіўся тут» (2000), «Прэм’ер--тузін 2005» (2005), «Прэм’ер-тузін 2006» (2006), «Куплеты і прыпевы» (2008), «Такога няма нідзе» (2010), «Белая яблыня грому» (2010).

*Міхал* Андрасюк (Польшча)

Пісьменнік, радыёжурналіст, публіцыст. Піша па-беларуску і польску. Вырас у вёсцы Войнаўка побач мяжы з Беларуссю. Выдаў тры тамы апавяданняў на беларускай мове: Фірма» (2000), «Мясцовая гравітацыя» (2004), «Белы конь» (2006). Выдадзены ў 2010 годзе «Вагон другога класа»

быў дэб'ютным раманам і першай кніжкай напісанай па-польску. Была яна намінаваная на літаратурную прэмію імя Веслава Казанэцкага, якую фундуе Прэзідэнт горада Беластока. У 2011 годзе «Белы конь» выйшаў у перакладзе на польскую мову Марціна Рэмбача. Кніга была ўганараваная прэміяй імя Веслава Казанэцкага.

*Юрый* Андруховыч (Украіна)
Паэт, празаік,спявак, эсэіст і перакладчык, адзін з прадстаўнікоў „станіславаўскага феномену”, заснавальнік паэтычнай групы «Бу-ба-бу». Закончыў Украінскі інстытут паліграфіі імя Івана Фёдарава ва Львове (1982). У 1990-1991-х гадах вучыўся ў Літаратурным інстытуце імя Максіма Горкага ў Маскве. У 1983-1984-х гадах служыў у Савецкай арміі, пасля чаго напісаў цыкл сямі апавяданняў «Армійські оповідання» (1989). У 2001 годзе атрымаў Узнагароду Гердэра. У Польшчы выйшлі друкам яго раманы: «Rekreacje», «Moscoviada», «Powieść grozy», «Perwersja» ды «Dwanaście kręgów». За апошнюю кнігу атрымаў Узнагароду Ліпскага кніжнага кірмашу ды Літаратурную прэмію Цэнтральнай Еўропы «Angelus». Яго творы перакладаліся і выдаваліся ў Польшчы, Беларусі, Нямеччыне, Канадзе, Фінляндыі, ЗША, Швецыі, Расіі, Аўстрыі ды Венгрыі. Перакладае з польскай, нямецкай і рускай моў. Жыве ў Івана-Франкоўску.

*Анджэй* Стасюк (Польшча)
Празаік, паэт, эсэіст і драматург, сузаснавальнік і саўладальнік выдавецтва Czarne, якое выдае перш-наперш цэнтральнаеўрапейскую літаратуру. У пачатку 1980-ых гадоў удзельнік пацыфісцкага руху, уцёк з арміі, за што быў прысуджаны на паўтара года турмы. Супрацоўнічаў з літаратурным „андэграўндам” у Польшчы. Аўтар многіх газетных фельетонаў. Лаўрэат узнагарод: Фонду культуры (1994), Фонду Касцельскіх (1995), імя Самуіла Багуміла Ліндэ (2002). Некалькі разоў быў намінаваны на літаратурную прэмію Nike; атрымаў яе ў 2005 годзе а кнігу «Jadąc do Babadag». Яго кнігі перакладзеныя, між іншым, на: англійскую, фінскую, французскую, нідэрландскую, нямецкую, рускую, нарвежскую, украінскую, вянгерскую, італьянскую, чэшскую і румынскую мовы.

*Алег* Латышонак (Польшча)
Гісторык і беларускі грамадскі дзеяч у Польшчы. Спецыяліст па гісторыі Беларусі і Вялікага княства Літоўскага, займаецца нацыянальнымі

і этнічнымі пытаннямі ва Усходняй Еўропе. Адзін з заснавальнікаў Беларускага дэмакратычнага аб'яднання (1991); яго старшыня ў 1992-1994-х гадах. У 1993-1997 гадах сябра рэдкцыі Тыднёвіка беларусаў у Польшчы «Ніва». Ад 1996 года старшыня Беларускага гістарычнага таварыстыва. З 1997 года – навуковы супрацоўнік Беластоцкага ўніверсітэта. У 1998 годзе быў сузаснавальнікам Беларускана Радыё Рацыя. Аўтар кнігі «Беларускія вайсковыя фапмаванні 1917-1923» (1995), суаўтар (з Яўгенам Мірановічам) выдання «Гісторыя Беларусі ад паловы XVIII да канца XX стагоддзя» (2002). Адзначаны ўзнагародай Заслужаны дзеяч культуры (2000) ды Крыжам кавалерскім Ордэну адраджэння Польшчы (2008).

*Кшыштоф* Круль (Польшча)
Палітык, дзеяч дэмакратычнай апазіцыі ў Польскай Народнай Рэспубліцы, дэпутат Сойму I і II склікання, журналіст, грамадскі дарадчык прэзідэнта Польшчы Браніслава Камароўскага. У 1984-1997-х гадах намеснік старшыні Канфедэрацыі незалежнай Польшчы, 1989-1997 – намеснік старшыні Камісіі замежных справаў Сойму. Журналіст тыднёвіка «Wprost» і стваральнік камп'ютарнага дадатку «Intermedia» (1997-2004). Выдавец часопісаў: «Gazeta Polska», «Droga», «Opinia». Аўтар некалькіх соцень артыкулаў пра сучасныя тэхналогіі. Выканаўца праекта US-AID «Wspólnota onLine» – партала для самакіраванняў.

*Анджэй* Пачобут (Беларусь)
Журналіст, публіцыст, блогер, з 1990-ых гадоў дзеяч польскай меншасці ў Беларусі. Працаваў, між іншым, у гарадзенскіх газетах «Пагоня», «День», «Местное времья», «Głos znad Niemna» ды ў цэнтральным незалежным выданні «Народная воля». Выконваў функцыю галоўнага рэдактара «Magazynu Polskiego na Uchodźstwie» – органу Саюза палякаў на Беларусі. З 2006 года карэспандэнт штодзённіка «Gazeta Wyborcza» ў Беларусі. За сваю працу шмат разоў узнагароджваўся так у Польшчы, як і ў Беларусі. У 2011 годзе ўплывовы месячнік «Press» прызнаў яго журналістам года. За грамадскую і журналісцкую дзейнасць неаднаразова затрымліваны і арыштоўваны. У 2011 годзе афіцыйна за абразу Аляксандра Лукашэнкі прысуджаны да трох гадоў турмы з адтэрміноўкай на два гады. Эксперт па савецкіх спец-службах ды Арміі краёвай на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Лаўрэат прэміі часопіса «Архэ» «За праўдзівае слова» (2009), Узнагароды імя Вітольда Гулевіча (2010), Узнагароды імя Анджэя Вайцяхоўскага (2011), «MediaTory» (2011), Журналіст года (2011).



# Osoby Almanachu

*Paweł* Smoleński (Polska)

Reporter, publicysta, od 1989 roku dziennikarz «Gazety Wyborczej», wcześniej współpracownik pism drugiego obiegu. Opublikował: «Pokolenie kryzysu» (Instytut Literacki w Paryżu), «Lustro demokracji» (Noir sur Blanc), «Salon patriotów» (Rytm), «Pochówek dla rezuna» (Czarne), «Irak. Piekło w raju» (Świat Książki, Czarne), «Izrael już nie frunie» (Czarne), «Bedzies wisioł za cosik. Godki podhalańskie» (Znak), «Balagan. Alfabet izraelski» (Agora). Kilkanaście jego reportaży opublikowała paryska «Kultura». Laureat Nagrody Pojednania Polsko-Ukraińskiego w 2003 roku za książkę Pochówek dla rezuna i Nagrody im. Kurta Schorka za teksty poświęcone Irakowi. W 2006 roku otrzymał także Nagrodę im. Beaty Pawlak za zbiór reportaży «Izrael już nie frunie».

*Sławomir* Ratajski (Polska)

Polski artysta, dyplomata, polityk, profesor, wykładowca ASP w Warszawie. Ukończył Akademię Sztuk Pięknych w Warszawie w 1979 roku. Do 2009 prowadził pracownię Malarstwa i Rysunku na Wydziale Grafiki ASP w Warszawie. Obecnie prowadzi Intermedialną Pracownię Kreacji Koncepcji Artystycznej oraz kieruje Wydziałową Katedrą Ogólnoplastyczną na Wydziale Sztuki Mediów i Scenografii ASP w Warszawie. Uczestniczył w ruchu niezależnego życia artystycznego okresu stanu wojennego. W latach 1990-1995 współpomysłodawca, uczestnik i komisarz ze strony polskiej wielu międzynarodowych spotkań artystów z Polski, Hiszpanii, Niemiec i Grecji organizowanych w Polsce, Hiszpanii i Niemczech. Uczestnik ważnych wystaw lat 80. m.in.: «Polska pieta», Poznań – Kraków (1986), Biennale Młodych «Droga i Prawda», Wrocław (1986) «Droga Krzyża», Muzeum Archidiecezji Warszawskiej (1987). Laureat brązowego medalu na I Międzynarodowym Biennale Sztuki Azja-Europa w Ankarze w 1996 roku.

*Leon* Tarasewicz (Polska)

Znany w Polsce i na świecie artysta malarz pochodzenia białoruskiego, profesor Akademii Sztuk Pięknych w Warszawie, wieloletni działacz w środowisku białoruskim, współorganizator pierwszych edycji festiwalu «Basowiszcza». Współpracuje z Warszawską Galerią Foksal, poznańską Galerią Ego a także lubelską Galerią Białą. W 2008 roku został ambasadorem Europejskiego Roku Dialogu Międzykulturowego. W 2005 w gmachu Opery i Filharmonii Podlaskiej w Białymstoku został odznaczony przez ministra kultury Srebrnym Medalem Zasłużony Kulturze Gloria Artis. W 2011 został odznaczony Krzyżem Kawalerskim Orderu Odrodzenia Polski. Otrzymał także: Paszport Polityki (2000), Nagrodę im. Jana Cybisa (2000) oraz Nagrodę Fundacji Zofii i Jerzego Nowosielskich. W 2007 otrzymał Wielką Nagrodę Fundacji Kultury za rok 2006 za konsekwentne rzucanie wyzwania zarówno tradycyjnemu rozumieniu malarstwa, jak i wszelkim konwencjom rozumienia sztuki.

*Lawon* Wolski (Białoruś)

Białoruski muzyk rockowy, wokalista i gitarzysta zespołów Mroja, N.R.M., Krambambula oraz Zet. Wraz z innymi białoruskimi muzykami brał udział w licznych wspólnych projektach, takich jak «Pieśniarok» – album w hołdzie pierwszemu białoruskiemu zespołowi rockowemu, rock-opera «Narodny albom» oraz album z piosenkami patriotycznymi «Ja naradziŭsia tut». Do jego dyskografii należą: «Narodny Albom» (1997), «Sviaty Viečar» (1999), «Ja Naradziŭsia Tut» (2000), «Premjer Tuzin 2005» (2005), «Premjer Tuzin 2006» (2006), «Kupliety i prypievy» (2008), «Takoha niama nidzie» (2010), «Biełaja Jablynia Hromu» (2010).

*Michał* Androsiuk (Białoruś)

Pisarz, dziennikarz radiowy, publicysta. Tworzy w języku polskim i białoruskim. Wychował się we wsi Wojnówka nieopodal granicy z Białorusią. W języku białoruskim wydał trzy tomy opowiadań: «Firma» (2000), «Miascowaja grawitacja» (2004), «Biely koń» (2006). Wydany w 2010 roku «Wagon drugiej klasy» był debiutem powieściowym i pierwszą książką napisaną po polsku, która uzyskała nominację do nagrody literackiej im. Wiesława Kazaneckiego, przyznawanej przez Prezydenta Białegostoku. W 2011 roku został wydany «Biały koń» w przekładzie Marcina Rębacza. Za tę książkę otrzymał nagrodę literacką im. Wiesława Kazaneckiego.

*Jurij* Andruchowycz (Ukraina)

Ukraiński poeta, prozaik, piosenkarz, eseista i tłumacz, jeden z przedstawicieli „fenomenu stanisławowskiego". Założyciel grupy poetyckiej «Bu-Ba-Bu». Ukończył studia w Ukraińskim Instytucie Poligrafii im. I. Fedorowa we Lwowie (1982),

a w latach 1990-1991 studiował w Instytucie Literatury im. Gorkiego w Moskwie. W latach 1983-1984 odbył służbę wojskową, która zainspirowała go do napisania cyklu siedmiu opowiadań «Armijśki opowidannia» (1989). W 2001 otrzymał Nagrodę Herdera.W Polsce ukazały się powieści: «Rekreacje», «Moscoviada», «Powieść grozy», «Perwersja» oraz «Dwanaście kręgów» za którą otrzymał Nagrodę Lipskich Targów Książki oraz Literacką Nagrodę Europy Środkowej «Angelus». Jego utwory przełożono i wydano w Polsce, Białorusi, Niemczech, Kanadzie, Finlandii, USA, Szwecji, Rosji, Austrii oraz na Węgrzech. Jest autorem przekładów z języka polskiego, niemieckiego i rosyjskiego. Mieszka w Iwano-Frankiwsku.

*Andrzej* STASIUK (Polska)

Prozaik, poeta, eseista i dramaturg, współtwórca i współwłaściciel Wydawnictwa Czarne, specjalizującego się w literaturze środkowoeuropejskiej. W początkach lat osiemdziesiątych zaangażowany w ruch pacyfistyczny, zdezerterował z wojska i półtora roku spędził w więzieniu. Współpracował z pismami wydawanymi przez animatorów literackiego „undergroundu" w Polsce. Autor licznych felietonów prasowych. Jest laureatem nagród: Fundacji Kultury (1994), Fundacji Kościelskich (1995), im. S. B. Lindego (2002), kilkakrotnie nominowany do literackiej nagrody Nike. W 2005 roku otrzymał Nike za «Jadąc do Babadag». Jego książki zostały przetłumaczone na wiele języków m.in. na angielski, fiński, francuski, holenderski, niemiecki, rosyjski, norweski, ukraiński, węgierski, włoski, czeski i rumuński.

*Oleg* ŁATYSZONEK (Polska)

Białoruski historyk i działacz społeczny w Polsce zajmujący się historią Białorusi i Wielkiego Księstwa Litewskiego, problemami narodowościowymi i etnicznymi w Europie Wschodniej. Jeden z założycieli Białoruskiego Zjednoczenia Demokratycznego (1991); w latach 1992-1994 przewodniczący BZD. 1993-1997 członek redakcji tygodnika Białorusinów w Polsce «Niwa». Od 1996 przewodniczący Białoruskiego Towarzystwa Historycznego. Od 1997 pracownik naukowy Uniwersytetu w Białymstoku. W 1998 był współtwórcą Białoruskiego «Radia Racja». Autor książki «Białoruskie formacje wojskowe 1917-1923» Białystok (1995), współautor (z Eugeniuszem Mironowiczem) «Historia Białorusi od połowy XVIII do końca XX wieku» Białystok (2002). Wyróżniony odznaką Zasłużony Działacz Kultury (2000), odznaczony Krzyżem Kawalerskim Orderu Odrodzenia Polski (2008).

*Krzysztof* KRÓL (Polska)

Polski polityk, działacz opozycji demokratycznej w okresie PRL, poseł na Sejm I i II kadencji, dziennikarz, doradca społeczny Prezydenta RP Bronisława Komorowskiego.

W latach 1984-1997 wiceprzewodniczący KPN, 1989-1997 wiceprzewodniczący Komisji Spraw Zagranicznych Sejmu. Dziennikarz tygodnika «Wprost» i twórca dodatku komputerowego «Intermedia» (1997-2004). Wydawca pism: «Gazeta Polska», «Droga», «Opinia». Autor kilkuset tekstów o nowoczesnych technologiach. Wykonawca projektu US-AID «Wspólnota onLine» – portalu samorządowego.

*Andrzej* Poczobut (Polska)

Dziennikarz, publicysta i bloger,a od początku lat 90. także  także działaczem mniejszości polskiej na Białorusi. Pracował m.in. w grodzieńskich gazetach «Pahonia», «Dień», «Miestnoje Wriemia», «Głos znad Niemna» oraz ogólnokrajowym dzienniku niezależnym «Narodnaja Wola». Pełnił funkcję redaktora naczelnego «Magazynu Polskiego na Uchodźstwie» – czasopisma Związku Polaków na Białorusi. Od 2006 roku jest korespondentem «Gazety Wyborczej» na Białorusi. Jego praca zyskała uznanie tak w Polsce, jak i na Białorusi, gdzie wielokrotnie dostawał nagrody dziennikarskie. W 2011 roku wpływowy miesięcznik «Press» uznał go za Dziennikarza Roku. Za swoją działalność społeczną i dziennikarską był też wielokrotnie zatrzymywany i aresztowany. Za rzekome znieważenie prezydenta Aleksandra Łukaszenki w 2011 roku został skazany na 3 lata więzienia, w zawieszeniu na 2 lata. Jest ekspertem od spraw związanych z historią służb specjalnych ZSRR na terenie Zachodniej Białorusi oraz działalnością AK na tych terenach. Laureat nagrody magazynu «ARCHE» «Za prawdziwe słowo» (2009), nagrody im. Witolda Hulewicza (2010), nagrody im. Andrzeja Woyciechowskiego (2011), MediaTory (2011), Dziennikarz Roku (2011).



## Змест

ANNUS ALBARUTHENICUS 2014
Poetica Prosa Critica Translatio Descriptio
Год Беларускі 2014 / Rok Białoruski 2014

Wydawca: Oficyna Wydawnicza Fundacja Villa Sokrates
Redakcja i opracowanie wydawnicze: Mikołaj Wawrzeniuk
Koncepcja artystyczna publikacji: Leon Tarasewicz
Projekt graficzny, przygotowanie do druku: Plajster Jerzy Osiennik
Tłumaczenia: Mikołaj Wawrzeniuk, Anna Grześ, Ewa Kanigowska-Gedroyc

Druk: Bieldruk
Nakład: 400 egzemplarzy
Krynki 2014

*www.villasokrates.pl*



XV Трыялог Крынкі 2014 / XV Trialoh Krynki
«Беларускі Міф» / «Białoruski mit»

Koordynator XV Trialogu: Paweł Grześ

XV Trialoh odbył się pod honorowym patronatem
Marszałka Województwa Podlaskiego










Projekt współfinansowany ze środków Mnisterstwa Spraw Zagranicznych
Projekt zrealizowany dzięki dotacji Ministerstwa Administracji i Cyfryzacji

ISBN 978-83-930962-5-1

## Беларускі міф

Дзе гэтая міфічная Беларусь? Кожны пра яе гаворыць, але папраўдзе вельмі мала ведае яе гісторыю, змаганне за незалежнасць, штодзённае жыццё. Чаму мы, беларусы, ведаем усё пра Польшчу і палякаў, а палякі пра нас не ведаюць амаль нічога? Як многа мы зрабілі ў гісторыі разам? Тадэвуш Касцюшка, Адам Міцкевіч, Ежы Папялушка, Тадэвуш Канвіцкі, Чэслаў Немэн, Ігнацы Карповіч, гэта самыя яркія гэтага прыклады. Сёння немагчыма ўявіць сабе інтэлектуальную прастору між Польшчай і Беларуссю без Сакрата Яновіча. Таму разважаем пра гэта тут, у Крынках, у Віле Сакратас, бо такой дыскусіі нам усім не хапае як рыбе вады. Не хапае нам свежага подыху ў супольным беларуска-польскім дыялогу, дзякуючы якому можа ў будучыні навучымся разам жыць. Мяняліся тутэйшыя межы, але захавалася цывілізацыя са сваёй культурай, культурай міфічнай Беларусі, якая ўвесь час уздзельнічае на спадчыну сучаснай Еўропы. Услухаймася ў яе нямы крык, крык Белай Русі, Дабрарусі, Добрай Зямлі Дорых Людзей. Яна тут, у нас, побач з намі, толькі трэба даць ёй магчымасць гаварыць ад свайго імя, сваёй мовай.